PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 17 (1928) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 25 КРАСАВІКА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.



*Родны краявід.* **Фота Я. Целушэцкага**

## ЯКАЯ БУДУЧЫНЯ БЕЛАРУСІ?

Калі 25 сакавіка г.г. у Беластоку падчас святкавання 75 угодкаў абвяшчэння Незалежнасці Беларусі дэпутат ад Беларускага народнага фронту Сяргей Навумчык сказаў, што рэакцыйная большасць у парламенце Рэспублікі збіраецца прагаласаваць за ліквідацыю нейтралітэту і далучэнне да мілітарных саюзаў арганізаваных Масквою, большасць прысутных не прыняла гэтага ўсур'ёз. Два тыдні пазней тое, што выглядала на нейкі гратэск, стала рэальнасцю.

Беларусам, грамадзянам Польшчы, можа і цяжка ўявіць сабе, каб якісьці еўрапейскі парламент добраахвотна выказаўся за абмежаваннем суверэнітэту дзяржавы, якой з'яўляецца найвышэйшым прадстаўніцтвам. Але Вярхоўны Савет не ёсць нармальным парламентам. Гэта перш за ўсё савецкая ўстанова, створаная дзеля рэалізацыі крамлёўскіх дырэктываў на тэрыторыі Беларусі. З мінулай эпохі асталася таксама і каланіяльная адміністрацыя.

9 сакавіка пасля трохдзённай бурлівай дыскусіі Вярхоўны Савет па прапанове прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча прагаласаваў — парушаючы ранейшую сваю пастанову аб нейтральнасці Беларусі — за далучэнне дзяржавы да ваенна-палітычнага саюза створанага Расіяй і азіяцкімі рэспублікамі. Што гэта абазначае? Лідэр БНФ называе паводзіны камуністаў звычайнай здрадай дзяржавы. Дэпутат Беленькі — таксама ад БНФ — сказаў адкрыта, што гэта пачатак пабудовы новай жалезнай заслоны ў Еўропе. Гэтым разам будзе яна не на Эльбе, а на Бугу. Яе існаванне найбольш дакучлівым акажацца грамадзянам Беларусі. Падпісваючы такі трактат, напрыклад, Беларусь стаецца баком у азербайжанска-армянскім канфлікце. Магчыма, што беларускім хлопцам наменклатура стварыла такім чынам некалькі чарговых Афганістанаў. Аднак, найбольшую пагрозу стварае для Беларусі сітуацыя ў Расіі. Да ўлады пхаецца там шавіністычна-камуністычная апазіцыя. Мае яна аграмадную падтрымку ў арміі, паліцыі, сярод кіраўнікоў найбольшых прадпрыемстваў, зацікаўленых вяртаннем ваеннай кан'юнктуры. Гэты палітычны лагер не скрывае свае ідэалогіі, якая ў найбольшым скарачэнні ёсць мяшанкай „самадзяржаўя”, ленінізму, гітлерызму і італьянскага фашызму 30-х гадоў. Няма там месца на суб'ектыўнасць народаў былой імперыі. Для Беларусі абазначае гэта вяртанне да статусу калоніі. Кожны, хто паглядзеў трансляцыю з сесіі Вярхоўнага Савета можа прадбачыць як выглядала б аднаўленне расейскага панавання на Беларусі. Нянавісць і пагарда да беларускасці г. зв. „народных дэпутатаў” дэманстратыўна прамаўляючых на замежнай мове, былі проста ашаламляючыя. Тое, што калісьці спяваў Сяржук Сокалаў-Воюш пра „страх на здрадніцкіх лычах” адносіцца і да сённяшняй сітуацыі.

Пануючая наменклатура пераконвае народ, што калі Беларусь падпіша саюз з Расіяй, атрымае ў неабмежаванай колькасці нафту і іншую сыравіну. Дае зразумець, што пачне, як і раней, круціцца мілітарны комплекс, пачнецца гандаль зброяй і вернецца савецкі „дабрабыт”. Пакуль што Расія не мае дзе прадаваць свае самалёты, танкі і „калашнікавы”, а Беларусь за сыравіну плаціць больш чым яна каштуе на сусветных рынках.

Толькі на мяжы з Расіяй Беларусь не мае мытняў ні прапускных пунктаў. Значыць гэта, што колькасць тавару, які завозіцца і вывозіцца з Беларусі астанецца без ніякага кантролю. У сітуацыі, калі тавары — асабліва спажывецкія прадукты — ёсць толькі на адным баку, абазначае гэта крэдытаванне суседняй дзяржавы.

У выніку рашуча адмоўнага становішча старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіслава Шушкевіча да пастановы парламента Беларусі ад 9 красавіка, справа не ёсць вырашана да канца. Подпіс пад трактатам з Расіяй мае скласці не хто іншы, як прэзідэнт Шушкевіч, які аднак запрапанаваў рэферэндум у гэтай справе.

У канцы мая Вярхоўны Савет будзе разглядаць, ці такі рэферэндум ёсць патрэбны, а калі б парламент пастаўіўся да гэтага адмоўна, С. Шушкевіч абяцаў падацца ў адстаўку, а фактычна і вызваліцца ад абавязкаў галавы дзяржавы. Здаецца, што барацьба за Беларусь яшчэ не скончана.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## ШТО ГАВОРАЦЬ БІЗНЕСМЕНЫ

На працягу мінулага паўгода я з зацікаўленнем „апытвала” знаёмых бізнесменаў (новаспечаных), як ідуць іх справы.

З размовы з **Міраславам Целушэцкім** (прэзасам фірмы „Амега” — сядзіба ў Бельску-Падляшскім, філіял у Варшаве):

— Кажуць, што сёння распачаць бізнес у Польшчы — гэта чыстае шаленства. А ты, Мірэк, на маё пытанне: „Ну, як там бізнес?” — адказваеш заўсёды нязменна: „Добра, вельмі добра!” Ці сапраўды так ёсць, ці проста пераняў ты ад амерыканцаў іх манеру: мае быць: „о'кей” і абавязковая ўсмешка задаволенасці на твары, бо інакш бізнесу не будзе?

— Калі гавару, што добра, значыць добра. У бізнесе ілюзіі не створыш.

**Міхась Шаховіч** (прэзас выдавецкай суполкі „Пагранічча”, член выдавецка-гандлёвай суполкі „Міхалінэум”) на маё пытанне: Ці адчуваеш сябе лепш у ролі бізнесмена, чым у ролі журналіста? — адказаў:

„Толькі каб пратрываць. Змаганне за існаванне. Дрыжыш, ці выдадзеныя кнігі пойдуць. Калісь, калі напісаў артыкул і ведаў, што людзі яго прачыталі, дык чалавек адчуваў задавальненне, а цяпер...

...Калі нават на кніжцы заробіш, дык за гэтыя грошы часопіс выдаеш. Але цешуся, што людзі маюць працу...

...Толькі пазайздросціць таму, хто на дзяржаўнай пасадзе... А тут на адной гадзіне колькі страціш, калі банк прытрымае грошы...”

**Віктар Стахвюк** (фірма „Эльвімекс” у Беластоку) паўгода таму назад:

„Пакуль што яшчэ не час выказвацца. Скажу праз паўгода”.

**Альжбета Стахвюк** (яго жонка, тая ж фірма):

„Пані Ада, я вам скажу: каб рабіць бізнес, трэба ўжо мець грошы!”

**Віктар Стахвюк** (праз паўгода):

„У бізнесе не можа палепшыцца, можа толькі пагоршыцца...”

**Галіна Вільк** (былая журналістка, кансультынговая фірма „Трансакцыя” ў Сувалках):

„Толькі маючы прыватную фірму, чалавек пачынае ўласціва ацэньваць працу на дзяржаўнай пасадзе, калі атрымліваеш мо і няшмат грошай, але рэгулярна і напэўна!”

**Януш Ляскоўскі** (вядомы беластоцкі спявак — „Beata”, „Żółty jesienny liść”, „Kolorowe jarmarki”, цяпер вядзе музычны салон „Касабланка”):

„Раблю гэта толькі для музыкі”.

**Ёля Панфілюк** (жонка Валіка Сельвесюка, віцэ-прэзаса фірмы „Амега”) толькі загадкава ўсміхнулася.

**АДА ЧАЧУГА**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Rzeczpospolita to wcale nie wyłącznie Polska, Rzecząpospolitą musimy się podzielić! Kościuszko — to także bohater narodowy Białorusinów, na ich ziemi się urodził, walczył o ówczesną Białoruś i Litwę wcale nie mniej niż o Polskę nad Wisłą i Koronę.*

*(Tygodnik Powszechny, 11.04.1993, wywiad z prof. J. Kłoczowskim)*

Усё гэта, безумоўна, так. Баімося толькі, што суродзічы прафесара падзел Рэчыпаспалітай (з беларусамі) усё яшчэ разумеюць паводле палажэнняў Рыжскага трактату 1921 г.: па Стоўбцы Рэчпаспалітая Польская, далей — Расія.

* * *

*— Kim Pan jest?*

*— Przede wszystkim poetą, cała reszta to tylko dodatki. Na przykład to, że wybrano mnie na przewodniczącego Związku Pisarzy Białorusi... (...)*

*— Co się stało z waszą inteligencją, która w czasach radzieckich nie broniła swego języka? Dlaczego tak łatwo dała się zrusyfikować?*

*— ...Białorusini nigdy nie mieli własnej państwowości. (...)*

*— Dlaczego na spotkaniu z polskimi pisarzami mówił Pan po rosyjsku, a nie po białorusku?*

*— Chciałem, żebyście mnie lepiej zrozumieli.(...)*

*(Gazeta Wyborcza, nr 84, rozmowa z Wasilem Zujonkiem, prezesem Związku Pisarzy Białoruskich)*

Вось і светапогляд беларуса, як кажуць, у пігулцы. Ці ты яму дай дзяржаўнасць, ці забяры — ён усё роўна будзе лічыць, што па-расейску яго лепш зразумеюць.

* * *

*Obecnie siła przyciągania ruchu mniejszości niemieckiej słabnie. Przejawia się to w niskiej frekwencji Ślązaków w wyborach samorządowych i parlamentarnych (poniżej 40 proc.), kiedy to mogli wybrać swoich reprezentantów, tak więc mobilizacja wyborców nie była zbyt duża — 74000 głosów oddanych na listę mniejszości niemieckiej w województwie opolskim to naprawdę niewiele, jeśli weźmie się pod uwagę, że Towarzystwo Społeczno-Kulturalne Mniejszości Niemieckiej liczy 180000 członków.*

*(Polityka, nr 14, z rozmowy z Dorotą Berlińską, pełnomocnikiem wojewody opolskiego do spraw mniejszości niemieckiej)*

Калі пры выбарчай прысутнасці ніжэй 40 працэнтаў 74 тысячы галасоў у ваяводстве — гэта мала, дык мы ўжо не ведаем, што можна сказаць пра палітыку ў Польшчы!

* * *

*W dobrach zabłudowskich powstały w XV wieku z nadania Puszczy Błudów Chodkiewiczom wsie bojarskie (...) Sieśki, Oleksicze, Krynickie, Halickie, Protasy, Tatarowce (...). Symptomatycznym jest, że niemal cała ludność bojarska w tych wsiach była katolicka. Chodkiewicze osadzali w tych wsiach Polaków, nie zaś Rusinów (...). Warto zwrócić uwagę na fakt, że wszyscy potomkowie bojarów zabłudowskich mają polską świadomość narodową, mimo że językiem codziennym — „budnim" — jest gwara polsko-białoruska.*

*(Z Zabłudowskiej Ziemi, kwiecień 1993).*

Гэтае спалучэнне навуковай метадалогіі Лысенкі і Розенберга мы заўдзячваем доктару гістарычных навук Юзэфу Марошку, супрацоўніку гістарычнага факультэта Філіяла Варшаўскага універсітэта з Беластока. Доктар Марошэк вучыць студэнтаў, якія ў будучыні стануць настаўнікамі. Маючы такіх *навукоўцаў*, без праблемы можна даказаць, што сабор св. Мікалая ў Беластоку — гэта старая езуіцкая святыня, гвалтам забраная каталікам царскім акупантам. *Навукоўцы* з Супраслі ўжо даказалі, што супрасльскі манастыр быў уніяцкім ужо 100 гадоў перад уніяй.

* * *

*W izbie wytrzeźwień w Suwałkach świątecznym jajkiem dzieliło się około 30 klientów.*

*(Gazeta Współczesna, nr 71)*

У выцвярэзніку таксама — klient nasz pan.

## З мінулага тыдня

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч** запрапанаваў дэпутатам звярнуцца да ўрадаў Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Румыніі, Малдовы і Венгрыі з заклікам, каб гэтыя дзяржавы прынялі статус нейтральных краін, што, на яго думку, было б найлепшай гарантыяй бяспечнасці як для іх саміх, так і для еўрапейскага кантынента.

**У Менску паўстаў Польскі народны універсітэт**, стварэнню якога садзейнічалі Польскае навуковае таварыства ў Беларусі і Таварыства Польшча-Беларусь. Падставовай формай дзейнасці ПНУ будуць пленарныя сесіі, якія павядуць навуковыя супрацоўнікі з Польшчы і вядомыя беларускія вучоныя. Займацца ў ім могуць ахвотныя папоўніць свае веды аб польскай гісторыі і культуры, пазнаць шляхі фармавання адносін паміж Польшчай і Беларуссю ў мінулым і ў наш час. Першыя заняткі былі прысвечаны 50 гадавіне стварэння Арміі Краёвай, 130 гадавіне Студзеньскага паўстання і трагічным лёсам палякаў - жыхароў даўніх усходніх зямель Рэчыпаспалітай у XX стагоддзі.

**Ужо другі год каталіцкі Вялікдзень у Беларусі** адзначаецца як афіцыйнае дзяржаўнае свята. У нядзелю тэлебачанне паказала спецыяльную праграму, а панядзелак быў выхадным днём. Самым вялікім здарэннем была прамая трансляцыя з касцёла св. Тройцы ў Менску, падчас якой мітрапаліт Менскі і Магілёўскі арцыбіскуп **Казімір Свёнтак** звярнуўся да вернікаў з Божым словам па-беларуску.

**Часовы арганізацыйны камітэт Саюза абароны Заходніх Зямель**, які пачаў дзейнасць у пачатку красавіка ў горадзе Яленя-Гура, супрацьставіцца продажу нерухомасцей у Польшчы замежнікам. Заснавальнікі аргкамітэта заявілі, што звернуцца з заклікам да жыхароў іншых ваяводстваў Ніжняга Шлёнска і Апольшчыны ўступаць у рады Саюза. На іх думку заходнія землі — гэта тэрыторыя экспансіі чужынцаў, перш за ўсё немцаў, якія, купляючы там зямлю, імкнуцца адабраць яе ў Польшчы.

**Аб адкрыцці Еўрапейскай Супольнасці на ўсход** і гаспадарчай сітуацыі ў Сярэдне-Усходняй Еўропе дыскутавалі ўдзельнікі канферэнцыі, якая адбылася ў Капенгагене. Удзельнічалі ў ёй прадстаўнікі 30 краін, у тым ліку дэлегаты ад Вышаградскай групы (Польшча, Венгрыя, Чэхія і Славакія), постсавецкіх прыбалтыйскіх рэспублік, Румыніі, Балгарыі, Славеніі і Албаніі. Канферэнцыя адбылася па ініцыятыве Даніі (яна зараз старшынствуе ЕС) на тры месяцы перад сустрэчай у вярхах, якая мае распрацаваць стратэгію Захаду ў адносінах да посткамуністычных дзяржаў.

**Старшыня Управы рэгіёна "Салідарнасці" ў Беластоку Войцех Ловец** дайшоў да вываду, што страціў здольнасць кіравання рэгіёнам і спыніў сваю дзейнасць. Рашэнне аб вызваленні яго з пасады старшыні пакінуў ён з'езду дэлегатаў, які адбудзецца 8 мая г.г.

**Міжнародны турнір танца "Залатыя туфелькі"** адбыўся ў Беластоку. Апрача польскіх майстроў танца ў спаборніцтве прымалі ўдзел пары з Беларусі, Эстоніі, Літвы, Украіны, Славакіі і Нямеччыны.

**У 76-ыя ўгодкі Людвіка Заменгафа** беластоцкія эсперантысты ўзлажылі кветкі да яго помніка на вуліцы Мальмеда. Людвік Заменгаф нарадзіўся ў Беластоку ў 1859 годзе. Новая мова, якую стварыў - эсперанта - заваявала папулярнасць у многіх краінах свету. Сусветная асацыяцыя эсперантыстаў, створаная ў 1908 годзе, гуртуе зараз прыхільнікаў гэтай мовы са звыш ста краін.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- ➤ Пратэст жыхароў Рагачоў супраць школьнай палітыцы ў Мілейчыцкай гміне.
- ➤ Эканамічная сітуацыя вёсак у Заблудаўскай гміне.
- ➤ Інтэрв'ю з палітыкам Ліберальна-дэмакратычнага кангрэса.
- ➤ Прагноз Крынкам.
- ➤ "Маланка" збіраецца ў Францыю.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ „БЕЛАВЕЖЫ"

Праўленне Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" паведамляе, што **24 красавіка (субота)** ў Беластоку, вул. Лінярскага 4 (пакой н-р 65), а гадз. 11.00 адбудзецца літаратурны семінар, прысвечаны агляду кніжкі Міры Лукшы **„Дзікі птах верабей"**.

Сардэчна запрашаем.

(лук)

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ЛАМАЦЬ - НЕ БУДАВАЦЬ!

Рэспубліка Беларусь працягвае раззбройвацца. Днямі непадалёку ад Баранавіч, згодна з Дагаворам аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, пачалося знішчэнне самалётаў "МИГ-27". Наша рэспубліка абавязалася ліквідаваць каля сотні гэтых баявых машын, што засталіся ад Савецкай Арміі. Наогул жа, з моманту ратыфікацыі гэтага пагаднення Беларусь знішчыла 66 баявых машын пяхоты, 67 танкаў і 52 бронетранспарцёры.

### СКАЖЫ, ХТО ТВОЙ СЯБРУК...

Як і чакалася, беларускі парламент падтрымаў прапанову прэм'ер-міністра рэспублікі Вячаслава Кебіча заключыць эканамічны саюз з Расіяй. На думку прэм'ера і ягоных паплечнікаў, больш цеснае сяброўства са "старэйшым братам" выратуе эканоміку Беларусі ад энергетычнага і сыравіннага голаду. Апроч таго, ваенна-прамысловы комплекс рэспублікі спадзяецца вярнуцца на "колы свая" і стаць, як у часы савецкай імперыі, галоўным зборачным канвеерам расійскіх войск. Чым можа скончыцца такое сяброўства, прадбачыць няцяжка. Хутчэй за ўсё, страціўшы статус нейтральнай дзяржавы і далучыўшыся да Расіі, мы зноў ператворымся ў ядзерных заложнікаў Масквы.

### ПРЫГАЖОСЦЬ ВЫРАТУЕ ГОРАД

У Беларускім дзяржаўным тэатры імя Я. Коласа адбыўся тэатральна-канцэртны марафон, у якім прынялі ўдзел майстры эстрады, артысты тэатра і фальклорныя калектывы Віцебшчыны.

### ХТО ВЫ ТАКІЯ? МЫ - МАЛАДЫЯ!

Днямі ў Менску адбыўся першы нацыянальны кангрэс маладых палітычных дзеячоў Беларусі, арганізаваны аднайменнай Асацыяцыяй. Маладыя палітыкі абмеркавалі сучаснае становішча ў рэспубліцы, выказалі свае слушныя прапановы і пажаданні наконт шляхоў выйсця Беларусі з крызісу. Вось толькі ці прыслухаюцца да іх дзяржаўныя "мужы"?

### ВЕЛАПРАБЕГАМ - ПА РАДЫЯЦЫІ!

Студэнты вышэйшых навучальных устаноў Менска вырашылі напярэдадні сёмай гадавіны Чарнобыльскай трагедыі зноў нагадаць свету аб гэтай страшнай бядзе. За 40 дзён беларускія студэнты мяркуюць праехаць на веласіпедах па дарогах Польшчы, Германіі, Нідэрландаў і Бельгіі, каб прыцягнуць увагу грамадскасці гэтых краін да постчарнобыльскіх праблемаў Беларусі.

### ТАЛЕНАВІТЫЯ ДЗЕЦІ, КУДЫ ВАС ПАДЗЕЦЬ?

Група беларускіх вучоных нядаўна звярнулася да парламента і ўрада Беларусі з заклікам стварыць спецыяльны Цэнтр па рабоце з таленавітымі дзецьмі. Справа ў тым, што зараз з-за адсутнасці грошай таленавітыя дзеці не могуць удзельнічаць не толькі ў міжнародных навуковых конкурсах, але і ў айчынных. А тым часам, як вядома, кангрэс ЗША прыняў адпаведную школьную праграму, згодна з якой ужо ў жніўні гэтага года каля 40 таленавітых беларускіх адправяцца за акіян на вучобу.

### УСЕ ЛЯЛЬКІ Ў ГОСЦІ ДА НАС

Ёсць надзея, што Міжнародны фестываль тэатраў лялек, які праводзіцца ў Менску трэці год запар, стане традыцыйным. Ва ўсялякім выпадку, прыезд у маі на Беларусь лялечных тэатраў з ЗША, Аўстрыі, Бельгіі, Германіі, Іспаніі, Італіі, Нідэрландаў, Польшчы, Фінляндыі, Францыі, Чэхіі, Швецыі дае для гэтага падставы.

### СТАРОЕ СВЯТА ЛЕПШ ЗА НОВЫХ ДВА

1 мая па-ранейшаму застаецца святам для беларусаў. Гэты дзень аб'яўлены Днём абароны працы, правоў грамадзян на працу і забеспячэнне нармальных умоў жыцця. Мяркуецца, што ў гэты дзень будуць праведзены дэманстрацыі, ушанаванні перадавікоў вытворчасці, а таксама шэсце-мітынг па вуліцах беларускай сталіцы.

### У КРАСАВІКУ ПРАЧНУЛІСЯ ЦЭНЫ

Метад шокатэрапіі добра прыжыўся на Беларусі. Пасля чарговага падаражання не прайшло і месяц, а транспартнікі зноў у два разы павялічылі кошт праезду ў цягніках. За імі паспяшаюць і сувязісты, якія днямі правялі першыя карэкціроўкі тарыфаў на міжнародныя тэлефонныя перагаворы. Цяпер мінута тэлефоннай размовы ў межах вобласці каштуе 10 рублёў, па рэспубліцы - 20. А каб толькі пачуць голас сваяка-масквіча беларус павінен аддаць 50 рублёў. Трэба чакаць, што пасля гэтага рэзка ўзрасцуць і цэны на прадукты харчавання - кілаграм цукру ўжо каштуе на трэць больш.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ЯК ЦЁПЛЫЯ БУЛАЧКІ

На пачатку 1993 года ў Менску выйшла з друку кніжка паэзіі Надзеі Артымовіч, якой паэтка дала загаловак „З неспакойных дарог". Экзістэнцыяльна-драматычны неспакой гэты, на які аўтарка глядзіць спакойна-аналітычна, як даследчыца, праяўляецца не толькі ў згушчаным змесце яе вершаў, але і ў іх структуры ды кампазіцыі. Такім „невершам" піша па-беларуску хіба толькі яшчэ Янка Юхнавец. Магчыма таму, што кажуць знаёмыя, томік Артымовіч распрадалі ў Менску маментальна. Як цёплыя булачкі.

**(Я. Ч.)**

**P.S.** Сустрэча з паэткай і яе новай кнігай плануецца на 30 мая г.г.

# АДКРЫЛІ МЯЖУ

26 сакавіка г.г. на пасяджэнні Гмінная рады ў Гарадку слова ўзяў **Лявон Тарасэвіч**: „Панове, мы тут радзім, а іншыя ў гэты час п'юць шампанскае ў Баброўніках".

Баброўнікі — вёска ў Гарадоцкай гміне, ля шашы Беласток — Ваўкавыск (самая кароткая дарога ў Менск). 26 сакавіка ў гэтай мясцовасці адкрыты быў пераход цераз мяжу для грузавых машын. Гаспадароў гміны пра адкрыццё ніхто не паведаміў. Пра сам факт даведаліся ў Гарадку з газет.

У сувязі з гэтым, Гмінная рада накіравала Беластоцкаму ваяводу ліст, у якім звяртае ўвагу, што такая трактоўка органу тэрытарыяльнага самакіравання, мякка кажучы, — неадпаведная. Ці надалей усё вырашае цэнтр па-над галовамі самаўрадаў, ці і гэтыя апошнія маюць нейкі ўплыў на тое, што дзеецца на іх тэрыторыі?

Па прапанове старшыні рады **Уладзіміра Лукошыка** ў лісце падкрэсліваецца намаганні Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, каб гэты пераход быў адкрыты. Упершыню з такою ініцыятывай выйшлі менавіта ўлады гміны Гарадок і БДА.

## НЕ ЛЕЗЬЦЕ Ў МІЖДЗЯРЖАЎНУЮ ПАЛІТЫКУ

„Я не разумею, што мае на думцы старшыня рады, пішучы пра ролю Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў адкрыцці пераходнага пункта ў Баброўніках — **кажа дырэктар Аддзела па грамадзянскіх пытаннях Ваяводскай управы ў Беластоку Гжэгаж Рыкоўскі**. — Гэтае рашэнне прымалася ў Варшаве і Менску, не мела тут значэння ніякая мясцовая ініцыятыва. Зрэшты, які мог бы быць у гэтай справе ўдзел партыі з польскіх грамадзян, якая дзейнічае на тэрыторыі Польшчы?" (? — М. В.)

Сакрат Яновіч, ранейшы старшыня Галоўнай рады БДА: „Я, здзіўляючыся некампетэнтнасці дырэктара Рыкоўскага, з ахвотай паслаў бы яго ў нейкую школу падвучыцца. Можа тады ведаў бы ён, што і партыя, як БДА, можа выступаць з пастулатамі аб адкрыцці перахода праз мяжу. У гэтым канкрэтным выпадку мелі мы на ўвазе, перш за ўсё, інтарэс рэгіёна, у тым і спадара Рыкоўскага, бо, на нашу думку, толькі супрацоўніцтва з Беларуссю магло б выратаваць Беласточчыну ад эканамічнай катастрофы. Пра гэта мы часта гаварылі на пасяджэннях нашае Галоўнае рады. Гэтае пытанне ставіў я чатыры разы ў афіцыйных размовах з прадстаўнікамі менскіх улад, у тым ліку з міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пётрам Краўчанкам. Слова ў гэтай справе закінуў я таксама прэзідэнту Валэнсе падчас сустрэчы ў Каралеўскім замку. Ну, але пра гэта ў Ваяводскай управе мелі права не ведаць".

**Ваявода Станіслаў Пруціс Гмінная управе адказаў палітычна і мала канкрэтна**: „(...) Аб адкрыцці пераходнага пункта вырашылі дзяржаўныя ўлады Польшчы і Беларусі. З праблемамі, якія ўзнікнуць у выніку гэтага факту, мусяць разабрацца як ўлады ваяводства, так і гміны Гарадок ды горада Беластока. Думаю, што гэтыя праблемы будзем рашаць супольна.(...) Прынятых міждзяржаўных рашэнняў я прашу не спалучаць з ніякай мясцовай палітычнай дзейнасцю. Хаця пабудова новага пераходнага пункта ў Баброўніках, гэта інвестыцыйная задача ваяводы, я спадзяюся на супрацоўніцтва і дапамогу ўладаў гміны Гарадок у рэалізацыі гэтай задачы, як сёлета, так і ў будучыні".

## ХТО АРГАНІЗАВАЎ АДКРЫЦЦЁ?

**Гжэгаж Рыкоўскі**: „У Баброўніках няма яшчэ сапраўднага пераходнага пункта, а маем мы дачыненне ўсяго з эксперыментам. Уся пагранічная і мытная працэдуры адбываюцца на беларускім баку. Таму адкрыццё было вельмі сціплае, не было ніякіх запрашэнняў. Пры чым не Ваяводская ўправа была арганізатарам урачыстасці, а Гранічная страж".

**Камендант Падляшскага аддзела Гранічнай стражы палкоўнік Здзіслаў Якубішын**: „ У адкрыцці, з нашага боку, прысутнічалі: Ваявода, дырэктары Рыкоўскі і Залеўская з Ваяводскай управы, намеснік Галоўнага каменданта гранічнай стражы, віцэ-прэзас Галоўнай мытні, дырэктар мытні ў Беластоку, каталіцкія біскупы: Азароўскі з Беластока і другі з Гродна, праваслаўны свяшчэннік з Малой Бераставіцы, ну і я. Гранічная страж гэта толькі выканаўца, а сапраўднымі гаспадарамі пераходных пунктаў на мяжы з'яўляюцца ў Польшчы, паводле законаў, **ваяводы**. Адкрыццё арганізуе гаспадар".

## КОЛЬКІ БІСКУПАЎ ВЫСВЯЧАЛА ПЕРАХОД?

Чаму на адкрыцці не было духоўнага Праваслаўнай царквы ў Польшчы?

**Айцец Рыгор Місіюк, прэс-інфарматар Беластоцка-Гданьскай епархіі**: „Мы былі абураны фактам, што пра гэту падзею ніхто нас не паінфармаваў. Уладыка Сава накіраваў у гэтай справе пратэст супраць ігнаравання праваслаўнага насельніцтва на гэтай зямлі".

**Айцец Мікалай Падолец з канцылярыі архіепіскапа Савы**: „Такі пратэст я падрыхтаваў уладыку, калі беластоцкая прэса паведаміла аб прысутнасці ў Баброўніках двух каталіцкіх біскупаў. Аднак мы яго не паслалі. Раздумаліся, прачытаўшы на другі дзень інфармацыю ў "Gazecie Wyborczej", што пераход высвячаў з гэтага боку каталіцкі біскуп, а з таго боку праваслаўны свяшчэннік".

Дык колькі было тых біскупаў. "Gazeta Współczesna" (ад 29.03.), як і палкоўнік Якубішын, цвердзіць, што двух, пры чым нават называе іх: Эдвард Азароўскі — генеральны вікарый Беластоцкай архідыяцэзіі і Аляксандр Кашкевіч — ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі.

„Я ў гэтай справе гаварыць не буду" — заявіў **Гжэгаж Рыкоўскі**.

## КОЛЬКІ ЦЭНТРАЎ УЛАДЫ Ў ГАРАДКУ?

„А пратэсту старшыні гарадоцкай Гміннай рады не разумею яшчэ і таму — працягваў ён, — што падчас адкрыцця перахода прысутны быў войт гміны Гарадок. Што там, падвойная ўлада, ці як?".

„Ніякай раздвоенасці ўлады ў нас няма — **кажа войт Яўген Семянюк**. — 26 сакавіка я быў на пасяджэнні Гміннай рады. У двух розных месцах у той самы час я быць не мог".

**Уладзімір Лукошык**: „Дырэктар Рыкоўскі проста не ведае, хто ў нас войт".

* * *

А ў Баброўніках мяжу пераязджае які дзесятак-два грузавікоў у суткі. Туды едуць з таварам, назад пустыя, бо няма „тэхнічных магчымасцяў", каб прапускаць поўныя машыны ў два бакі. І не будзе, пакуль на польскім баку не пабудуецца адпаведная інфраструктура. На сённяшні дзень няма яшчэ нічога.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# КУПЯЦЬ НАС

Якія тэлефоны ў нас — кожны ведае. Часамі з Рымам лягчэй спалучыцца, чымсьці з Трасцянкай. „Ало, муві се".

2 красавіка ў Беластоку адбылася прэсавая канферэнцыя на тэму I Міжнароднага кірмашу тэлекамунікацыі, электронікі і электратэхнікі. Кірмаш арганізуецца Падляшскім агенцтвам рэкламы і маркетынгу „Парма", Таварыствам польскіх электрыкаў, Беластоцкім электранічным прадпрыемствам „Біязэт" і Управай горада Беласток. Тэрмін кірмашу — 15-17 мая 1993 года. Тэхніка маецца прэзентавацца ў залах прадпрыемства „Біязэт", Галоўнай тэхнічнай арганізацыі, а таксама, калі не хопіць месца, у зале Медыцынскай акадэміі і спартыўнага клуба „Włókniarz".

Кірмаш робіцца дзеля таго, сказаў на канферэнцыі яго дырэктар Рэмігіюш Валкевіч, каб паказаць сваю фірму ды яшчэ на кірмашы гэтым зарабіць. Маем намер сцягнуць у Беласток фірмы з усходу, бо Беласток якраз з'яўляецца месцам, дзе павінны адбывацца кантакты фірмаў Усходу і Захаду. Разаслалі мы запрашэнні на кірмаш для шмат якіх заходніх фірмаў, галоўным чынам нямецкіх — яны пакуль не пацвердзілі свайго ўдзелу ў імпрэзе. Лічу, сказаў Р. Валкевіч, што добра будзе, калі ў гэтым годзе прыедуць прадстаўнікі гэтых фірмаў. Сама імпрэза мае быць штогадовай, а яе пастаянным тэрмінам 17 мая — сусветны дзень сувязі і тэлекамунікацыі.

На кірмашы мае паказацца самая мадэрная тэхніка з галіны сувязі. Арганізатары намерваюцца паставіць на кірмашы тэлефонны апарат, з якога можна будзе непасрэдна спалучыцца з усім светам без „Ало, муві се". Вядома, не задарма. Таварыства польскіх электрыкаў правядзе ў час кірмашу адмысловыя сімпозіумы.

Мая фірма, сказаў дырэктар кірмашу, у змозе наладзіць далёка лепшую імпрэзу, чым тэкстыльны кірмаш. Інфармацыя пра яе пойдзе і ў цэнтральнай прэсе. Дадаткова ў пачатку мая паставім у Беластоку радыёстанцыю, якая на звышкароткіх хвалях будзе інфармаваць пра кірмаш.

О-го! Муві се?

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ПРЫЕХАЛА...

Гэтак часамі гаварылі ў вёсцы, калі прыязджаў туды грузавік з кухонным посудам. Восенню ж "прыватызацыя" купляла яшчэ ад гаспадароў бульбу - пэўна ладныя тоны гэтай бульбы гнаіліся б да Калядаў, каб не камуняцкія ГээСы. Гаварыўшы аднак усур'ёз, 7 красавіка гэтага года адбылася ў Беластоку прэсавая канферэнцыя з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства пераўтварэнняў маёмасці і Дэлегатуры гэтага ж міністэрства на паўночна-ўсходні рэгіён, якая і мела адказаць на пытанне - направіць прыватызацыя кандыцыю гаспадаркі ў гэтай краіне, ці можа зноў хтосьці тут робіць нас у дурня.

Прыватызацыяй дзяржаўных прадпрыемстваў займаецца дэлегатуры Міністэрства пераўтварэнняў маёмасці. Дэлегатура з'яўляецца такім адмысловым адміністрацыйным утварэннем, якое непасрэдна падпарадкавана Міністэрству, з'яўляецца яго часткай, выканаўчым у тэрыторыі органам. Беластоцкая дэлегатура ахоплівае сваімі паўнамоцтвамі Беластоцкае, Ломжынскае і Сувальскае ваяводствы. У кампетэнцыі дэлегатур рашэнні аб ліквідацыі прадпрыемстваў з эканамічных прычын, а таксама апініяванне прадпрыемстваў назначаных для прыватызацыі.

Асноваю прыватызацыі з'яўляецца закон ад 13 ліпеня 1990 года аб прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў. З моманту, у якім закон гэты ўвайшоў у жыццё да канца 1992 года на шлях пераўтварэння маёмасці ўвайшло 61 дзяржаўнае прадпрыемства ў трох ваяводствах нашага рэгіёна. Найчасцейшым спосабам пераўтварэнняў прадпрыемстваў аказаўся ліквідацыйны шлях. Адрозніць тут аднак трэба два спосабы ліквідацыі - адзін з іх (на аснове 19-га артыкула закону аб прыватызацыі) датычыць прадпрыемстваў у цяжкім эканамічным становішчы і другі спосаб (на аснове 37-га артыкула згаданага закону), які датычыць прадпрыемстваў у даволі добрым становішчы. Ліквідацыя прадпрыемства з эканамічных прычын заключаецца ў распараджэнні яго маёмасцю, задавальненні крэдытораў прадпрыемства ды затым прадпрыемства такое выкрэсліваюць з рэестру. Прадпрыемстваў такіх у згаданым перыядзе было 39, з чаго ліквідацыя паспяхова даведзена да канца ў выпадку аднаго прадпрыемства. Больш эфектыўна прыватызацыя праходзіла ў выпадку прадпрыемстваў у ненайгоршым эканамічным становішчы - да канца 1992 года закончылася ліквідацыя 18 прадпрыемстваў, маёмасць якіх у 15 выпадках была перададзена ў платнае карыстанне працоўным суполкам, адно было пераўтворана ў суполку, а два прадпрыемствы былі прададзены на шляху г. зв. "хуткага продажу".

Камерцыялізацыя прадпрыемстваў, якая заключаецца ў пераўтварэнні іх міністрам у аднаасабовыя суполкі дзяржаўнага скарбу ахапіла на тэрыторыі трох ваяводстваў 11 дзяржаўных прадпрыемстваў.

Прысутны на прэсавай канферэнцыі генеральны дырэктар Міністэрства пераўтварэнняў маёмасці Рафал Загурны звярнуў увагу, што ў сітуацыі, калі прадпрыемства не прыносіць прыбытку, прыватызацыя з'яўляецца адзіным шляхам утрымання прадпрыемства пры жыцці. Нельга, гаварыў, спадзявацца тут на нейкую кашу з неба ці на тое, што нехта прыедзе і вырашыць усе праблемы прадпрыемства. Працаўнікі самі павінны браць лёс прадпрыемства ў свае рукі. Трэба аднак, зазначыў Р. Загурны, каб працаўнікі ўсведамлялі сабе ўсю рызыку. Аднаго жадання прыватызаваць прадпрыемства замала - трэба яшчэ, каб у працоўным гурце была група гэтак званых новых уладальнікаў прадпрыемства, яго кіраўнікоў - без гэтага поспех наогул немагчымы.

Міністэрства пераўтварэнняў маёмасці імкнецца ўтрымаць два шляхі прыватызацыі - ліквідацыю прадпрыемстваў і капіталовы шлях, гэта значыць пераўтварэнне прадпрыемства ў суполку, а пазней продаж акцый. У краіне сціраюцца дзве тэндэнцыі прыватызацыі - з аднаго боку выступаюць прыхільнікі агульнай рэпрыватызацыі (зварот усёй або амаль усёй забранай маёмасці), а з другога боку прыхільнікі канцэпцыі, каб увогуле не прыватызаваць маёмасці. Маё міністэрства, сказаў Р. Загурны, прабівае кампрамісны шлях, але пакуль не аказваецца для яго адпаведнай палітычнай падтрымкі.

Абвінавачванне прыватызацыі ў росце беспрацоўя ў краіне, гаварылі на канферэнцыі прадстаўнікі беластоцкай Дэлегатуры, неабаснаванае. Узровень беспрацоўя абумоўлены эканамічнай сітуацыяй прадпрыемстваў, а не формулай, у якой яны існуюць.

Што ж, акажацца прыватызацыя лякарствам для гаспадаркі, ці не - час пакажа. Але тое, што навырастала вакол яе шмат эмоцый - гэта факт.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ - АТРЫБУТАМ ГОНАРУ НАЦЫІ

**Беларусы, жыхары Польшчы, найчасцей маюць нагоду слухаць выказванні ўсялякіх мясцовых суперпатрыётаў, часта не ўяўляючы, што ў Рэспубліцы Беларусь ёсць таксама палітычныя плыні, якія праблемы чалавечнасці бачаць праз прызму нацыі. Чытачам "Нівы" прапануем размову з лідэрам Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі АНАТОЛЕМ АСТАПЕНКАМ, у якой палітык даказвае, што нацыянальнасць - гэта галоўны атрыбут асобы чалавека.**

Рэд.

*- Што ў наш час можа вывесці Беларусь з крызісу? Якую арыентацыю павінна ўзяць нашае грамадства сярод многіх часта супярэчлівых прапаноў?*

- Зараз ідзе працэс пераходу ад камуністычнага, таталітарнага рэжыму да дэмакратычнага грамадства. Але разбурыць - гэта не стварыць. Дэмакратыя ЗША прайшла доўгі час развіцця, пакуль там усталяваўся цяперашні лад і цяперашні ўзровень жыцця. Былі ў Амерыцы і інфляцыя, і крызіс, і беспрацоўе... Але ў іх не было камунізму. Не было 75-гадовага панавання самога жудаснага з усіх рэжымаў - бальшавіцкага, які зараз далёка не скончыўся ў рэспубліках былога СССР. І асабліва моцныя традыцыі камунізму - у Беларусі. Самае дрэннае, што ў нас адбылося - гэта генныя змены. З пакаленнямі людзі нясуць у сабе ўжо спадчыннасць камуністычнага сатанізму. І калі ў дзяржавах Прыбалтыкі камуністы яшчэ не паспелі зніштожыць нацыю, то ў Беларусі яны амаль дасягнулі поспеху. У гэтым галоўная трагедыя беларусаў. І калі рэлігія, вера ў Бога выратуе душу чалавека, то нацыянальнае пачуццё выратуе ўсё грамадства. Таму я лічу, што кожны з беларусаў павінен прайсці шлях ад посткамуністычнага чалавека-манкурта да Чалавека, галоўнымі рысамі якога з'яўляецца ўсведамленне сябе ў Госпаду і Нацыі. Калі не будзе гэтага, то грамадства такіх людзей непазбежна сканае.

Гісторыя сведчыць, што толькі нацыянальная ідэя здольная быць той сілай, якая зможа вывесці грамадства на высокі ўзровень дабрабыту. Так было пасля другой сусветнай вайны ў Германіі, калі Людзвіг Эрхард выводзіў з крызісу эканоміку дзяржавы праз яе нацыянальную сутнасць. Так было ў Японіі, якая за вельмі кароткі тэрмін ператварылася з феадальнай дзяржавы ў высокаіндустрыяльную краіну. Гэты пералік можна працягваць на многіх прыкладах.

Ці ёсць падставы гаварыць аб беларускай нацыі як здольнай утварыць незалежную развітую дзяржаву? Мы ж добра ведаем, што ў беларусаў ужо засталося



мала прыкмет як нацыі - непавага да роднай мовы, адсутнасць гістарычнай свядомасці і г.д. Часта гавораць аб нацыянальным нігілізме беларусаў, што нацыя яго дэградуе і іншае.

Нягледзячы на крытычнае становішча беларусаў як нацыі, я б адказаў на гэтае пытанне ўсё ж станоўча. Падставы для гэтага ёсць. Звернем увагу хаця б на тое, што матэрыяльны ўзровень у беларускай рэспубліцы даволі высокі /у параўнанні з іншымі рэспублікамі/, што сведчыць не толькі аб адносна высокім інтэлектуальным узроўні грамадства, але і аб тым, што адна з нацыянальных рысаў беларуса - яго працавітасць - яшчэ не знікла. Не нашая віна, што мы не ведаем свае гісторыі, не нашая віна і ў тым, што мова нашая - трасянка. Дзесяцігоддзямі камуністы вытраўлялі ў нас пачуццё нацыянальнай годнасці. І "поспеха", як бачым, дасягнулі. Але глыбінныя народныя традыцыі ім задушыць не ўдалося. Яны жывуць. І гэта надае нам вялікі аптымізм у дасягненні галоўнае мэты нацдэмаў - адраджэнне сапраўднага нацыянальна-свядомага беларуса.

*- Як бачаць нацдэмы шлях да грамадзянскай супольнасці?*

- Гэтае, пытанне, на першы погляд, складанае, на самой справе вырашаецца вельмі проста. Гаварыць аб супольнасці людзей можна толькі ў сэнсе супольнасці роўных сярод роўных, бо калі адна нацыя дамінуе над другой, падаўляе яе, то гэта не супольнасць, а хворая дзяржава, якая рана ці позна выйдзе на цывілізаваны шлях, але праз цяжкую, кровапралітную барацьбу. Заходняя Еўропа прайшла ўвесь шлях і выйшла на ўзровень, калі магчымы кантакт народаў на любым узроўні, калі межы паміж дзяржавамі ўжо неістотныя, і там сапраўды ўтварылася звышдзяржаўная еўрапейская супольнасць. Але магчыма гэта стала толькі тады, калі кожная з нацыяў, уваходзячых у гэтую супольнасць, стала высокаразвітой квітнеючай нацыяй з багатай культурай, высокім пачуццём годнасці, і, нарэшце, гэта дзяржавы з высокім эканамічным патэнцыялам.

Мы, беларусы, стаім толькі на пачатку гэтага шляху. Да еднасці праз крышталізацыю асабістасцей - вось філасофская формула працэсу. Таму пачатак наш - гэта знясільваючы шлях да стану, калі ўжо можна "людзьмі звацца". І толькі потым пачнецца паступовы працэс інтэграцыі з ужо сталымі народамі, якім не пагражае небяспека раствэрыцца сярод больш развітых народаў.

*- Што такое нацыянальная дэмакратыя?*

- Ці правамоцна такое наогул спалучэнне словаў, ці не з'яўляецца яно супярэчлівым па сваёй самой сутнасці? Могуць, напрыклад, сказаць, што найпершай каштоўнасцю дэмакратыі з'яўляецца свабода асобы Чалавека і ніякія нацыянальныя абмежаванні не могуць перашкаджаць ёй. Лібералы аргументуюць гэта тым, што імкненне да свабоды даецца чалавеку ад нараджэння і стан свабоды - гэта найвялікшы набытак цывілізацыі. Сярод дэмакратаў мінулага і многіх сучасных дэмакратаў, асабліва расейцаў, распаўсюджана апінія, што ўсялякія размовы аб нацыянальных праблемах, нацыянальным адраджэнні толькі тармозяць натуральны шлях чалавецтва да дэмакратыі.

А ці так гэта? Ці з'яўляецца нацыянальнасць другасным паняццем у іерархіі эвалюцыі чалавецтва? Для адказу на гэтыя пытанні неабходна звярнуцца да аналізу самае сутнасці такіх катэгорый як асоба чалавека, што ёсць суіснасць гэтай асобы, у чым яе адрозненне ад жывёльнага стану, і галоўнае - усвядоміць эвалюцыю чалавека, якой яна мусіць быць у Божым тварэнні.

Гісторыя сведчыць нам наступнае. У далёкім мінулым не знойдзем мы літаратурных сведчанняў аб нацыянальных праблемах. Не толькі нацыянальныя асаблівасці, а нават і расавыя неўласцівыя першым грамадскім ладам чалавецтва. Але неўласцівыя гэтым грамадствам таксама і дэмакратыя ды гуманізм. Таталітарныя рэжымы, жорсткі падзел на касты мы назіраем на прыкладах старадаўняга Егіпта, антычнага Рыма. І толькі з распадам Імперыі паяўляюцца новыя якасці ў чалавечым грамадстве - узнікае такая катэгорыя, як свабода чалавека і разам з ёй, з павелічэннем ролі асобы чалавека, узнікае і яе адметнасць - нацыянальная прыналежнасць. Нацыянальнасць - адзін з галоўнейшых атрыбутаў асобы чалавека. І прыярытэт асобы, яе правоў - гэта і прыярытэт нацыянальнага над інтэрнацыянальным. Таму і сапраўднае дэмакратычнае грамадства магчыма толькі праз развіццё асобы чалавека, а праз яе - нацыянальнасці. Вось у чым сэнс нацыянальнай дэмакратыі.

Згубіць нацыянальны твар - згубіць сябе, дэградаваць, стаць манкуртам. Такі чалавек і такая нацыя не здолеюць процістаяць прагрэсу, развіццю нацыянальных дзяржаў. Нацыянальнае - вышэйшая каштоўнасць чалавека ў сучасную эпоху. Не зліццё, а развіццё нацыі - вось у чым сутнасць эвалюцыі апошніх трох стагоддзяў.

На першы погляд, ЗША - адзіная дэмакратычная дзяржава, якая дасягнула высокай ступені дабрабыту не праз развіццё нацыянальных асаблівасцей, аднак гэта бяда амерыканцаў. Бяда ў адсутнасці высокай духоўнай культуры, уласцівай менавіта амерыканцам. Але ўжо XX-е стагоддзе дае нам зусім новую маладую нацыю - амерыканскую. З развіццём гэтае нацыі развіваецца і ўсё амерыканскае грамадства.

Шлях нацыянальных дзяржаў з моцнымі традыцыямі аказваецца намнога больш перспектыўным, чымсьці амерыканскі. Яскравым прыкладам можа служыць Японія. Шлях ад таталітарнага рэжыму да дэмакратычнага ў іх быў вельмі ўражваючы.

Быць беларусам - азначае не толькі валоданне беларускай мовай, а усведамленне сябе беларусам у гістарычным і геапалітычным ракурсе. Гэта азначае веданне гістарычнай праўды аб Беларусі, усведамленне свае адметнай беларускай ментальнасці, якая неўласціва ні ўкраінскай, ні расейскай нацыям. Усведамленне сябе не як брата расейца /усё роўна малодшага, ці старэйшага/, а ўсведамленне сябе праз адваротнае: уся гісторыя беларусаў была не жыццём у адной сям'і з расейцамі, а бясконцымі з імі войнамі. Усведамленне сябе еўрапейцамі часоў Скарыны і Гусоўскага і паднявольным народам азіяцка-расейскай нацыяй XIX-XX стагоддзяў - вось якая павінна быць нашая ментальнасць.

Геапалітычны фактар. Для беларусаў, бадай, адзінае, што засталося праз вякі. На этнічных і гістарычных землях Беларусі жыве беларускі народ. Тут і толькі тут - ён адзіны гаспадар і задача нацыянал-дэмакратаў - давесці гэта да свядомасці кожнага беларуса, каб кожны беларус ведаў, што ўсе астатнія этнічныя групы, якія жывуць побач з намі - толькі госці ў нас і нашая задача - заўсёды быць гасціннымі і добразычлівымі для іх, але ніколі не трапляць у залежнасць ад гэтых гасцей. Гонар нацыі - вось атрыбут нацыянальнай незалежнасці.

Гутарыў **М. МАТРУНЧЫК**

---

# ДА ДЭМАКРАТЫІ БЕЗ ПАЛІТЫКІ?

У Гданьску з 21 лютага да 3 сакавіка гэтага года пабывала 16-асобовая дэлегацыя Беларускага рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі. Госці прыехалі на запрашэнні старшыні Ваяводскага самаўрадавага сейміка ў Гданьску Гжэгажа Гжэляка дзеля азнаямлення з функцыянаваннем самаўрадавай сістэмы ў Польшчы. На працягу 10 дзён мелі яны нагоду выслухаць наступныя даклады: "Рэформа тэрытарыяльнага самакіравання ў Польшчы", "Сістэма публічнай адміністрацыі - закон аб кампетэнцыях", "Бюджэт гмінаў", "Гданьскі рэгіён і прыгарад", "Функцыянаванне Апеляцыйнай калегіі". Апрача тэарэтычных лекцыяў арганізаваныя былі паездкі ў гміны: Касцяжына, Картузы, Кальбуды, Пуцк. Адзін дзень госці з Беларусі назіралі за працай Гарадской управы Гданьска.

Як выявілася, у дэлегацыі большасць складалі дэпутаты гарадскіх саветаў. Сярод іх быў таксама старшыня Слаўгарадскага савета (Магілёўская вобласць) Фелікс Шкірманкоў.

У час пабыўкі мелі месца цікавыя сустрэчы, дыскусіі. 25 лютага беларускіх гасцей прымаў Гжэгаж Гжэляк. Гаварыў ён пра шанцы самаўрадавай рэформы ў Польшчы і пагрозы для яе. У сустрэчы прысутнічаў консул Рэспублікі Беларусь у Гданьску Аляксей Шахновіч.

У суботу 27 лютага адбылася сустрэча ў беларускім клубе ў Гданьску. Мы - гданьскія беларусы - даведаліся пра Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ, а госці мелі магчымасць пазнаёміцца з намі і пачуць адкуль у гэтым рэгіёне Польшчы беларусы.

З размовы з адказным сакратаром фонду Валерам Грыцуком пераканаліся мы, што далёка не ва ўсім сябры фонду падзяляюць пазіцыі сённяшняй дзяржаўнай улады ў Беларусі.

Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ зарэгістраваны быў 11.08.1992 года. У "Свидетельстве о регистрации устава общественного объединения" записаны "цели деятельности": садзейнічанне працэсам паслядоўнага ўстанаўлівання і развіцця дэмакратычных рэформ у Рэспубліцы Беларусь у галіне органаў мясцовага самакіравання, эканомікі, навукі, культуры, экалогіі, прапаганды ідэй дэмакратыі і пашаны правоў чалавека. Гэтая пазаўрадавая, непалітычная і некамерцыйная арганізацыя была заснавана 26.06.1992 года дэпутатамі мясцовых саветаў, бізнесменамі, юрыстамі, мастакамі, пісьменнікамі - прадстаўнікамі БНФ "Адраджэнне" ды іншых некамуністычных апазіцыйных партый і рухаў. Старшыня фонду - Георгій Куневіч.

Члены фонду прыйшлі да вываду, што Беларусь - нягледзячы на абвяшчэнне суверэнітэту - застаецца надалей у такой самой сітуацыі: працуюць стары парламент і старыя саветы, старая таксама выканаўчая ўлада, якой, за рэдкімі выключэннямі, не залежыць на хуткіх пераменах, бо яны пагражаюць ёй самой. Такое становішча трэба неадкладна мяняць, хаця б невялікімі крокамі, пачынаючы з рэформы сістэмы тэрытарыяльнага самакіравання. Цяпер на правінцыі самастойна нічога немагчыма зрабіць, бо ўсё вырашае цэнтр. Старшыня Слаўгарадскага савета казаў, што хаця ў яго дэмакраты ў большасці, дык і то ён мае звязаныя рукі. А што казаць тым, хто ў сваіх саветах дэмакратаў мае ў значнай меншасці, як напрыклад Генадзь Гаўрусёў з "ваеннага" Барысава?

Хаця ў Польшчы дэмакратычныя працэсы таксама замаруджваюцца, але ёсць законы, якія ім спрыяюць: закон аб самаўрадавай сістэме, закон аб кампетэнцыях публічнай адміністрацыі. Госці з Беларусі маглі назіраць польскі вопыт і рабіць высновы на будучыню, бо ўсё ж такі ад'язджалі яны з верай у здзяйсненне дэмакратычных рэформ на бацькаўшчыне, хаця ў Гданьску не прыняў іх Генеральны консул Рэспублікі Беларусь і хаця ад нашай грамады, апрача маральнай падтрымкі, нічога яны не атрымалі.

Для нас была гэта чарговая сустрэча з беларускамоўным асяроддзем. Шкада толькі, што старшыня Георгій Куневіч на афіцыйным спатканні ў Ваяводскім сейміку карыстаўся рускай мовай, а не беларускай (дзяржаўнай усё ж такі!). Сітуацыя была крыху паранаічная: усе з бел-чырвона-белымі значкамі, а мовы польская ды расейская і перакладчыца. Чарговы раз высветлілася, што мы тут на антыподах - гданьскія беларусы - з нашай роднай мовай ні пры чым.

**З членамі дэлегацыі размаўлялі: Лена Глагоўская, Іра Гаданьчук і Дарота Голуб.**

Запісала: **ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**




Першая нядзеля пасля Вялікадня называецца „Фаміной Нядзеляй". Пасля радаснага пасхальнага тыдня Царква ўспамінае яўленні Уваскросшага Хрыста апосталам. Калі Ісус упершыню з'явіўся вучням, увайшоўшы праз зачыненыя дзверы, не было сярод іх Фамы. Ён не паверыў сведчанню апосталаў: „Калі не ўбачу на руках Яговых ранаў ад цвікоў і не ўлажу рукі маёй у бок Яго — не паверу" — заявіў Фама. Пасля 8-мі дзён Збавіцель з'явіўся ізноў. Ведаючы пра сумненні Фамы паказаў яму свае раны і развеяў ягоны скептыцызм. Узрадаваны апостал усклікнуў: „Госпадзе мой і Божа мой!". Хрыстос прыняў вызнанне веры Фамы, папракнуўшы яго аднак за няверʼе: „Ты паверыў бо бачыў, але шчаслівыя небачыўшыя і паверыўшыя".

Вера Фамы была б Ісусу мілейшай, каб ён меў добрую волю паверыць на падставе сведчання іншых. Калі б свет пайшоў за прыкладам Фамы — усе патрабавалі б довадаў і бясконцага доказвання. Мне самому здарылася наіўна пераконваць аднаго цынічнага інтэлігента наконт існавання Бога, карыстаючыся свежа запамятанымі са школы касмалагічнымі, анталагічнымі, тэлеалагічнымі і маральнымі доказамі. Вынік маёй інтэлектуальнай натугі быў ніякі. Чалавек, якога я пераконваў, не хацеў быць перакананым: для яго гэта было слоўнае жанглёрства. Бясплодная палеміка выклікала новыя аргументы і доказы...

Пытанне веры і няверʼя наогул звышчасовае; яго немагчыма і сёння абысці ці прамаўчаць. Справа ў тым, што можна не верыць у тысячы другарадных з'яваў і рэчаў, але вера ў Бога мае іншую вартасць. Яна важная таму, што ўплывае на жыццё, фармуе адносіны да іншага чалавека, да грамадства, да ўсіх сваіх абавязкаў. Яна выяўляецца ў маралі, у спосабе жыцця, у тым як жывем і як сябе паводзім. Той, хто імкнуўся знішчыць у народзе веру — быў выключна блізарукім і палітычнам самагубцам. Напэўна таксама не жадаў ён дабра ні свайму народу, ні дзяржаве...

Біблія вучыць, што вера абсалютна неабходная. Яна з'яўляецца дарам, які кожнаму трэба развіваць. „Вы выбаўлены ласкай цераз веру; і гэта не ад вас, але — Божы дар" — чытаем у Лісце да Эфесцаў (2, 8). Разумеючы слабасць сваёй веры апосталы гаварылі: „Госпадзі — памажы майму няверʼю". Для іх было ясным, што зерне веры патрабуе шмат догляду і руплівасці. Білі Грэм, вядомы баптысцкі прапаведнік, пісаў у сваёй кніжцы „Жыццё з Богам": „Я пераканаўся, што калі людзі свядома адкідаюць Хрыста як Госпада, яны робяць гэтак не таму, што хрысціянская навука разумова непрымальная, але таму, што яны стараюцца пазбегнуць адказнасці і абавязацельстваў, якія ўскладае на чалавека хрысціянскае жыццё. Гэта іх слабыя, самалюбныя сэрцы, а не розум ці асвета, стаяць паміж імі і Хрыстом. Яны проста няздольныя цалкавіта ва ўсім падпарадкавацца і ўступіць Хрысту".

Гісторыя ведае незлічоныя прыклады людзей, якія выбралі Майсееў шлях. У сэнсе карʼеры, дабрабыту і ўлады ён меў сапраўды ўсё. Ён выразна бачыў два шляхі. Адзін вядомы яму праз 40 гадоў, дастатні і раскошны. Другі — у людскім разуменні непрывабны: пакутны і гаротны. Майсей зрабіў неверагодны выбар: прынёс вялікую ахвяру дзеля невымернай але большай каштоўнасці.

У наш час рэдка каму здараецца стаяць перад такім драматычным выбарам. Рэдка калі ад нас вымагаецца невыносных ахвяраў, якія ў часы ашалелага бязбожніцтва былі фактам. Зараз, калі дэклараваць няверʼе некарысна і нават небяспечна, прыдалося б усім тым, што стаяць на перадзе храмаў са свечкамі ў руках і выціраюць царкоўныя паркеты, больш шчырасці. На гэты істотны дэфіцыт і звяртае ўвагу евангельскі Фама.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

*(пачатак у нумарах: 51 і 52 за 1992г. і 1, 2, 3, 7, 8, 9, 11, 12,13)*

## XII. ГАДЫ, АПАЛЕНЫЯ ВАЙНОЮ

Пачатак гітлераўскай акупацыі ў Кляшчэлях стаў найбольш трагічным для яўрэйскай часткі насельніцтва (у 1939 г. налічвала яна 710 чалавек на звыш 2200 насельніцтва). У 1942 г. беларуская і польская супольнасць горада была сведкамі масавай дэпартацыі іх яўрэйскіх знаёмых і суседзяў у лагеры смерці. Па яўрэях засталася адно бажніца, пустыя дамы ды могілкі, што пры дарозе ў Чаромху.

З усталяваннем новага ладу мяняецца і царкоўнае падпарадкаванне праваслаўнага прыхода ў Кляшчэлях. Разам з усімі прыходамі, што ўвайшлі ў "Беластоцкую акругу" ён падпарадкоўваецца ўладыку Серафіму - зарубежнаму архіепіскапу Берлінскаму і Нямецкаму. У гэты перыяд абавязкі настаяцеля выконвае а. Мікалай Рудэчка, назначаны ў Кляшчэлі яшчэ ў 1938 г.

У II палове ліпеня 1944 г. пад Кляшчэлямі затрымліваецца савецка-нямецкі фронт. 25 ліпеня, у выніку контрудару арміі ген. Батава, Кляшчэлі былі вызвалены. У час вострага перастрэлу пашкоджана была Успенская царква - разбураны дах храма, знішчана ўнутранае абсталяванне.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняў, прыхаджане адразу ўзяліся за адбудову свайго храма. У гэтым памагалі ім, несумненна, малітвы перад іконай св. Мікалая Цудатворца, якая шчасцем зберагласа з катаклізму. Да 1949 г. храм быў канчаткова адбудаваны. Для ўнутранага ўбранства было выкарыстана абсталяванне адной царквы з Люблінішчыны, якой украінскае насельніцтва было выселена ў 1947 годзе.

Адначасова з цяжарам адбудовы дому Божага, жыхарам Кляшчэль і наваколля прыходзіцца пераносіць усе грамадска-палітычныя складанасці пасляваеннага часу. У выніку ўсталявання новай дзяржаўнай мяжы, Кляшчэлі апынуліся ў становішчы перыферыйнага, пагранічнага мястэчка. Зусім упала іх роля, як горада распаложанага ў паўдарозе паміж Беластокам і Бярэсцем. Коштам Кляшчэль пачалі развівацца "стратэгічна" распаложаныя Чаромха і Гайнаўка. Гэтая апошняя мясцовасць, у 1953 г. атрымала гарадскія правы. У тым жа годзе такія правы страцілі Кляшчэлі (ўспомнім, што яны былі ім дадзены ў 1523 г.)

З 1944 г. раён Кляшчэль стаў месцам дзеяння груп АК, ВіН і іншых атрадаў, якіх мэтаю была барацьба з афіцыйным ладам ды проста грабеж насельніцтва. Іх узброеныя дзеянні ў адносінах да цывільнага насельніцтва дасягнулі найбольшай жорсткасці ў пачатку 1946 г. Сімвалам гэтага сталі Залешаны, адна з вёсак Кляшчэлеўскага прыхода, якую 29 студзеня 1946 г. спацыфікавала група "Бурага". Загінула тады 16 жыхароў Залешан, у тым жанчыны і дзеці. У той жа дзень атрад "Бурага" спаліў значную частку Волькі-Выганоўскай, забіваючы двух яе жыхароў. Гэтыя і іншыя дзеянні вельмі трывожылі мясцовае беларускае насельніцтва. Частка людзей, не вытрымаўшы напружання і тэрору, падалася ў Савецкі Саюз.

Разам з насельніцтвам, усе тыя трывогі пераносіў настаяцель, а. Мікалай. У душпастырскай працы памагалі яму а. Лука Курыловіч (1946-1951), а. Антон Аўярчук (1949-1968), а. Вікенцій Пугацэвіч (1956-1958) ды а. Пётр Касацкі. Гэты апошні святар, пасля смерці а. Мікалая Рудэчкі пераняў пасад кляшчэлеўскага настаяцеля. Пасля года назначаецца сюды новы настаяцель, а. Уладзімір Гарустовіч.

У чэты час жыхары Дабрывады - найбольшай вёскі прыхода - хочучы засведчыць сваю веру,рашаюць пабудаваць уласны храм. Пабудова пачынаецца ў 1960 годзе, на месцы, якое здаўна лічылася асаблівым і святым - пры рэчцы Добрая Вада.

Дваццаць гадоў пасля заканчэння II сусветнай вайны, у 1966 г. лік кляшчэлеўскіх прыхаджан быў роўны стану з 1877 г. На тэрыторыі прыхода пражывала 2950 праваслаўных, а ў паасобных мясцовасцях: Кляшчэлі - 780, Чаромха-вёска - 557, Дабрывада - 426, Сухавольцы - 313, Залешаны - 208, Рэпчыцы - 49, Кузава - 300, Волька-Тэрахоўская - 72 ды Чаромха-станцыя - 261 асоба. У гэтай апошняй мясцовасці колькасць праваслаўных была большая, але частка з іх была далучана да прыхода ў Зубачах.

Новы якасна перыяд у гісторыі кляшчэлеўскай праваслаўнай супольнасці пачынаецца з 1966 года.

*(заканчэнне будзе)*

**Р.С. і М.С.**




*План кляшчэлеўскай царквы, выкананы інж. Б. Рудкоўскім у 1985 годзе.*




GOMÓŁKA K. Polskie ugrupowania polityczne wobec kwestii białoruskiej 1918-1922. Warszawa 1989. Rec. MACIAK D., *Więź*, 1992, nr 1 s. 141-143.

TURONEK J.: Wacław Iwanowski i Odrodzenie Białorusi. Warszawska Oficyna Wydawnicza „Gryf", Warszawa 1992, ss. 148; Rec. MILEWSKI JAN Jerzy: Bracia trzej: Białorusin, Litwin, Polak. *Gazeta Tygodniowa*, 1992, nr 37/38, s. 10.

WEJKO W. Samoobrona Litwy i Białorusi. Szkic historyczny. Biblioteka Wydawnictwa „Szlakiem Pradziadów" Nr 3. Reprint. Warszawska Oficyna Wydawnicza „Gryf", Warszawa 1992, ss. 100.

SUŁEK B.: Białoruś i my. *Tygodnik Solidarność*, 1992, nr 29, s. 8-9, il.

KOROTCZENIA I.: Mińsk to nie „Bruksela Wschodu". (Centrum koordynacyjne Wspólnoty Państw Niepodległych). Rozm. przepr. J. Różdżyński. *Spotkania*, 1992, nr 29 s.33, il.

DARSKI J.: Kronika litewska, białoruska i ukraińska. *Kultura*, 1992, nr 1/2, s. 146-151; nr 3, s. 113-117; nr 4, s. 102-106.

ŁATYSZONEK O. : Białoruś zdana na siebie. Rozm. przepr. Kazimierz Rosiński. *Gazeta w Białymstoku*, 5.08.1992, nr 54, s. 1

ROGALA J. : Nowe badania uczonych litewskich dotyczące dziejów księgozbiorów na Wileńszczyźnie i Białorusi. *Z Badań nad Polskimi Księgozbiorami Historycznymi*, 1991, z. 11, s. 235-256. Sum.

MARTYŃCZYK W.: Rozmowa z ... (na temat białoruskiej grupy plastycznej „Forma"). Rozm. przepr. I. Grzesiuk-Olszewska, A. Leśniewska, A.K. Olszewski. *Rzeźba Polska*, 1987, s. 85-95, il.

GOMÓŁKA K.: Geneza, działalność i rozpad białoruskich oddziałów wojskowych (1917-1920). *Studia i materiały do Historii Wojskowości*, 1991, t. 34, s. 185-190.

MICHALSKI W.: Białoruś — nowe państwo Europy Wschodniej. *Geografia w Szkole*, 1992, nr 2, s. 85-89, rys. wykr.

BELARUSKAJA kaflia. Minsk 1989. Rec. ŻEMIGAŁA M., *Kwartalnik Architektury i Urbanistyki*, 1991, z. 3, s. 263-271, il.

DOGRAMADZYJEWA Evkatirina: Prevodačeski pochvati pri pričinnite sjuzni svedstva v Suprasĺskija sbornik. *Zeszyty Naukowe*. Uniwersytet Gdański, *Slavistyka* 1989 (wyd. 1992), nr 6, s. 73-81, tab. Rez. Sum.

HRYNIEWICZ Wacław: Staroruska teologia i duchowość paschalna. Motywy paschalne w pismach św. Cyryla z Turowa (zm. przed 1182). *Roczniki Teologiczno-Kanoniczne*, 1988, t. 35, z. 2, s. 25-50.

NIKITOROWICZ Jerzy: Rodzina w zróżnicowanych wyznaniowo i etnicznie społecznościach Białostocczyzny. Fragm. *Sprawy Narodowościowe*, 1992, t. 1, z. 1, s. 131-147, tab.

SADOWSKI Andrzej: Narody wielkie i małe. Białorusini w Polsce. Kraków 1991. Rec. SAKSON A., *Sprawy Narodowościowe*, 1992, t. 1, z. 1, s. 235-239.

WRÓBEL P.: Kształtowanie się białoruskiej świadomości narodowej a Polska. Warszawa 1990. Rec. SAKSON A., *Sprawy Narodowościowe*, 1992, t. 1, z. 1, s. 235-239.

**Р.С.**

## АДГУКНУЎСЯ ЯН КРУК

У першым сёлетнім нумары „Нівы” быў змешчаны здымак з багаслужбы ў белавежскай царкве, зроблены яшчэ да выбуху I сусветнай вайны. Я прасіў старэйшых чытачоў назваць прозвішчы свяшчэннаслужыцеляў відавочных на здымку. Адгукнуўся Ян Крук з Навасадаў, які ў гадах 1911—1913 вучыўся ў Белавежы ў двухкласнай мужчынскай Аляксандраўскай школе міністэрства асветы. У сваю чаргу, у жаночай школе ў Белавежы вучылася таксама сястра Яна, нябожчыца Параска Крук.

Я неадкладна наведаў гэтага 93-гадовага зараз чалавека. Ян Крук жыве сам — сям'і ён не аснаваў. Хварэе і гады таксама даюць знаць пра сябе. Але памяць у яго захавалася добрая. Вядома, што сп. Ян усяго памятаць не можа, але без моманту хістання назваў а. Міхала Шырынскага (на згаданым здымку — старэйшы свяшчэннаслужыцель, з сівой барадой), які ў белавежскіх школах навучаў закону Божага. Другога айца, дыякана, сп. Крук не мог сабе ўспомніць. Яму здаецца, што на імя меў ён Раман, але да канца ў гэтым ён не ўпэўнены.

Ян Крук памятае, што школа, у якой вучыўся, знаходзілася на рагу сённяшніх вуліц Застава і Вольгі Габец, менш-больш там, дзе зараз стаіць спажывецкая крама. Была яна драўляная, на падмурку. Згарэла ў час I сусветнай вайны. У кожным класе вучылася дзесьці па 20 хлопцаў. Кіраўніком школы быў псаломшчык мясцовай. царквы, Лазоўскі, настаўнікам — Артэмюк. Побач школы знаходзіўся фруктовы сад, які даглядалі, між іншым самі вучні. У школе былі спецыяльныя гімнастычныя прылады. Дзеці, апрача закону Божага вывучалі гісторыю, геаграфію, арыфметыку і іншыя прадметы.

Кватараваўся Ян Крук у спадара Гвая на Заставе.

— Ён быў дужа адукаваным, як на тыя часы, чалавекам, — сцвярджае мой размоўца. — Памятаю, што ён меў шмат рускіх часопісаў. Я прабаваў у іх крыху гартацца, але не спадабалася гэта майму гаспадару. Аднойчы мае школьныя сябры падгаварылі мяне, каб „супрацівіцца” сп. Гваю. Калі ён пачынаў рабіць мне заўвагі, тады я „ў адказ” паўтараў некалькі разоў: „Гвай-бугай”. Вядома, што закончылася гэта выклікам майго бацькі, які працаваў у пушчы лясным сторажам (гаёвым), а жыў у гаёўцы ў Лясной, што зараз у Гайнаўцы. Бацька перапрасіў гаспадара за мае неадпаведныя паводзіны (я таксама!) і перакватараваў мяне да адной удавы, у той жа самой Заставе.

— Хацеў бы я яшчэ дабавіць, — працягвае сп. Крук, — што згаданы мною спадар Гвай, пажылы ўжо чалавек у той час, пісаў вершы. Памятаю, што ў 1911 г., на адкрыццё бюста цара Аляксандра II, адлітага з бронзы і пастаўленага на агароджаным плотам пастаменце, ля самой вуліцы побач царквы, напісаў ён спецыяльны верш, якога зместу я ўжо не памятаю, але помню, што ён быў энтузіястычна ўспрыняты ўдзельнікамі ўрачыстасці, дзесьці ў 100 чалавек. Іншы верш быў напісаны ў гонар сына цара Мікалая II, Аляксея. Было гэта ў 1913 г., калі цар з сям'ёй і гасцямі прыехаў у Белавежу на паляванне. Царэвіч прастудзіўся, ляжаў у ложку. Памятаю, што мы гэты верш спявалі, а яго прыпеў гучаў так: „Живи наш царевич, живи на гордость и славу нашу”.

Ян Крук вучыўся таксама ў царкоўна-прыхадской школе ў Навасадах (яна змяшчалася ў тым самым доме, дзе ён зараз жыве — нумар 91), затым у Свіслачы, а калі ў жніўні 1915 года сям'ю вывезлі пад Маскву — там жа ў 1918 г. закончыў ён „Пушкинское Высшее Начальное Земское Училище”.

Бацька Яна, Хведар Сцяпанавіч Крук, і ў бежанстве працаваў гаёвым. Пад Масквой яны пражылі чатыры гады, потым іх перакінулі ў Башкірскую вобласць, пад Уфу. Вярнуліся ў родныя мясціны ў 1921 г. Затрымаліся ў Навасадах. Бацька ўжо не працаваў гаёвым. Мелі шэсць гектараў зямлі і абраблялі яе. Гаспадыняй у доме была бацькава сястра. Пачыналі, як кажа сп. Ян, „ад іголкі”. Дараблялі працай у лесе. Існавала ў той час фірма, якая займалася дастаўкай апалу для Віленскай дырэкцыі чыгуначнага пуці. Яна Крука на кароткі час назначылі нават дзесятнікам у той жа фірме. У 1923 г. прызвалі ў армію. Пасля года службы, Ян ізноў пачаў працаваць пры вырабе апалу і „папяроўкі”. Да 1939 г. быў т. зв. маніпулянтам у Гайнаўскім, Лясняньскім і Нараўчанскім надлясніцтвах. За савецкай улады назначылі яго начальнікам па эксплуатацыі Гайнаўскага лесаўчастка. У вайну працаваў ляснічым у Падцаркве, а пасля вайны, 20 год, ляснічым у надлясніцтве Нараўка. На пенсію пайшоў у 1965 г.

Ян Крук захаваў шмат цікавых дакументаў. У яго захавалася пасведчанне заканчэння ім і яго сястрой царкоўна-прыхадской школы ў Навасадах, заканчэння двухкласнай школы ў Белавежы, Свіслачы. Мяне найбольш зацікавіла паседвчаная копія „Удостоверения”, якое было выдадзена сям'і Крукаў ад імя упраўляючага Белавежскай удзельнай пушчай на праезд з Белавежы ў Маскву ў 1915 г., значыць на „бежанства”. Я прыводжу яго змест у арыгінале:

*Министерство Императорского*
*Двора и Уделов*
*Управляющий Беловежскою Удельною Пущею*
*6-го Августа 1915 года*
*н-р 4104*
*почт. адрес и для телеграмм:*
*ст. Беловеж Гродненской губ.*

*УДОСТОВЕРЕНИЕ*

*Дано сие от Управления Беловежской Удельной Пущи лесному сторожу 4-го имения Беловежской Пущи Федору Степановичу Круку в том, что он с семейством в числе (:6:) человек по военным обстоятельствам отправляется внутрь Российской Империи, согласно Высочайше утвержденному в 20-тый день Августа 1914 года Временному Положению о вывозе на счет казны по военным обстоятельствам государственного имущества, правительственных учреждений, служащих и их семейств.*

*Настоящее удостоверение выдано г. Круку для беспрепятственного проезда в вагонах III класса от станции посадки Беловеж железных дорог до ст. Москва и провоза з собой, согласно упомянутому выше Положению, груза багажом до четырех пудов, что надлежащими подписями с приложением печати свидетельствуется.*

*Подленные подписали: управляющий Беловежскою Удельною Пущею Юрий Львов, делопроизводитель Терликовский.*

**ПЁТР БАЙКО**

---

**P.S.**

Усё ж хочацца звярнуць увагу, як зусім па-іншаму вывозілі сем'і лясных служачых у глыб Расіі 25 гадоў потым.

**П. Б.**

## НА СЦЭНЕ — ЛІЦЭІСТЫ!

3 красавіка бягучага года ў глядзельнай зале ў памяшканні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку адбыліся цэнтральныя элімінацыі дэкламатарскага конкурсу для вучняў сярэдніх школ ды працуючай моладзі. Удзельнічалі ў іх 29 чалавек з Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі, Рыбалаў і Гданьска.

Прысутных удзельнікаў і гледачоў прывітаў намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Янка Сычэўскі. Зычыў ён усім дэкламатарам удачы. Затым прадставіў конкурснае чатырохасабовае журы пад старшынствам выдатнага акцёра Тэатра імя Янкі Купалы ў Менску Юрася Авяр'янава.

Найперш выступілі дзевяць вучаніц Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, якія прыехалі са сваім настаўнікам Васілём Сакоўскім, а затым шэсць вучняў з Белліцэя ў Бельску-Падляшскім, якіх рыхтавала настаўніца Зінаіда Дземянюк. Першую частку конкурсу — была яна прадназначана для паасобных дэкламатараў — закончылі два дэкламатары з вёскі Рыбалы. Адзін з іх ужо працуе, а другі вучыцца ў сярэдняй школе ў Беластоку. Рэпетыцыі праводзіў з імі кіраўнік маладзёжнага тэатральнага гурту „Балаган” Янка Мордань.

У другой частцы конкурсу выступілі тэатральныя калектывы: з Гданьска гурт „Мы” (кіраўніком яго з'яўляецца Дарота Голуб) і з Рыбалаў (кіраўнік Янка Мордань).

Індывідуальныя дэкламатары мелі ў сваім рэпертуары творы класікаў беларускай літаратуры і сучасных беларускіх пісьменнікаў з Беларусі, а таксама членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”: Алеся Барскага, Віктара Шведа, Міры Лукшы, Васіля Петручука, Надзеі Артымовіч і Янкі Целушэцкага.

А вось найлепшыя дэкламатары: **Мар'я Аліфер** з Бельска-Падляшскага — I месца, **Гражына Галавачык** з Гайнаўкі, **Януш Катэльчук** з Бельска-Падляшскага, **Пётр Астасевіч** з Беластока і **Пётр Тамашук** з Рыбалаў — II месца ды **Малгажата Грабоўская** з Гайнаўкі — трэцяе.

У катэгорыі невялікіх аматарскіх тэатральных калектываў журы не прызнала першага месца, другое месца заняў гурт з Рыбалаў і трэцяе — **гурт „Мы” з Гданьска.**

Варта адзначыць, што ўдзельнікі сёлетняга дэкламатарскага конкурсу трапна зрабілі падборку літаратурных твораў і добра зарэкамендавалі сябе на сцэне. Вельмі пацяшальнай з'явай была вялікая пашана і любоў да роднай мовы. Дэкламацыя мастацкіх твораў праходзіла на высокім узроўні. Вышэй згаданыя лаўрэаты дэкламавалі амаль як сапраўдныя акцёры, з пачуццём, з вялікім запалам.

Усіх лаўрэатаў сардэчна віншуем!

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## ГУДЗЕВІЧЫ — КРЫНІЦА БЕЛАРУСКАСЦІ

Падчас зімовых канікулаў група настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны, якая была на курсе ў Гародні, наведала прынёманскую вёску Гудзевічы Мастоўскага раёна. Мясцовая сярэдняя школа і літаратурна-краязнаўчы музей падорылі нам незабыўныя хвіліны радасці, а перш за ўсё захапілі шчырай улюбёнасцю ў духоўную спадчыну нашага народа.

Як першую наведалі мы школу. Праваднікамі па школьным будынку былі: дырэктар Ніна Дзенісевіч і яе намеснік Вера Трацяк. У фае і на калідорах — выявы людзей з нацыянальнага пантэону, родныя пейзажы, багатыя патрыятычным і адукацыйным зместам стэнды. Агледалі мы кабінеты навучання паасобных прадметаў. Увагу прыцягвалі камп'ютэры, а таксама вынаходлівыя столікі — адначасова для навукі і гульняў у сябрыне 6-гадовых першакласнікаў ды іх... высоўваныя спальныя ложкі. Удзельнічалі мы ў занятках ткацкага і пасяджэнні этнаграфічнага гурткоў, запрасілі нас вучні на вячоркі „У гасцях у Паўлінкі”. Заўважальнай асаблівасцю школы ёсць і тое, што на калідорах дзеці віталіся з намі беларускім „Добры дзень”.

У Гудзевіцкую СШ ходзіць 180 вучняў

мае перспектыву, між іншым таму, што побач вёскі будуецца пасёлак для тых, якія пастанавілі вярнуцца на Бацькаўшчыну.

Усе дзеці за дзяржаўныя грошы атрымліваюць абеды.

Урокі вядуцца на беларускай мове. Выкладаецца таксама рускую і заходнееўрапейскія мовы. Група 20 вучняў са старэйшых класаў займаецца ў гуртку польскай мовы. На ўроках з гэтай мовай знаёміцца таксама 8 першакласнікаў. Як сказала нам спадарыня дырэктар, гэта дзеці не толькі палякаў.

У Гудзевічах асвета і выхаванне не загнаны выключна ў школу, не адарваны ад бурнага жыцця. Прыкладна, школьныя і пазашкольныя краязнаўчыя заняткі выхоўваюць прагу пазнання, фарміруюць цікавасць да пошукаў новага і тым самым садзейнічаюць развіццю творчай думкі, пашырэнню жыццёвага кругагляду. Шляхам праз краязнаўчую работу прывіваецца любоў да родных мясцін, да матчынай песні, што з цягам часу пераходзіць у глыбокае патрыятычнае перакананне.

Пад кіраўніцтвам вопытнай настаўніцы Веры Белакоз вучні арганізавалі гурток народных умельцаў і на самаробных кроснах ткуць паясы, закладкі, гальштукі. Імянныя гальштукі падчас сустрэч былі ўручаны Івану Мележу, Уладзіміру Караткевічу, Дануце Бічэль-Загнетавай, Васілю Быкаву, Максіму Танку, Анатолю Вярцінскаму, Пімену Панчанку, Арлену Кашкурэвічу, Яўгену Петрашэвічу, Пятру Клімуку, Уладзіміру Кавалёнку і іншым. Члены ткацкага гуртка вывучаюць і далей развіваюць гэтае непаўторнае народнае мастацтва. Яно ж з'яўляецца асновай і першакрыніцай кожнага народа.

З 1966 года ў Гудзевіцкай школе выдаецца альманах „Праменьчык”. Гэта орган рады музея і гуртка беларускай літаратуры. У кожным нумары, а выйшла іх дагэтуль 14, бываюць такія раздзелы: паэзія, сачыненні, дапаможнікі для экскурсавода, лісты пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, кампазітараў, вучоных, касманаўтаў, дзяржаўных дзеячаў, этнаграфія, тапаніміка, дыялектызмы, гумар і іншыя. Праца, якая праводзіцца ў Гудзевіцкай СШ — выдатная крыніца развіцця творчых здольнасцяў вучняў. Друкавалі яны свае творы не толькі ў школьным „Праменьчыку”, але і ў раённых або рэспубліканскіх газетах і часопісах, выступалі па радыё і тэлебачанні.

На ўроках мовы, літаратуры, гісторыі, геаграфіі, спеваў, рысавання, выхаваўчых гадзінах выкарыстоўваецца матэрыял літаратурна-краязнаўчага музея. У некаторых выпадках на гэтым матэрыяле настаўнікі будуюць цэлыя ўрокі.

Літаратурна-краязнаўчы музей знаходзіцца недалёка ад школы, наўскасяк цераз вуліцу. Быў ён заснаваны ў 1968 годзе. Напачатку першыя экспанаты змяшчаліся ў невялікім пакойчыку цеснага ды старога ўжо школьнага будынка. Але колькасць матэрыялаў павялічвалася з кожным днём. Калі школа атрымала новы будынак, мясцовы калгас адрамантаваў і пераабсталяваў для музея старое памяшканне. Цяпер у музеі больш за 10 тысяч арыгінальных эксапанатаў.

У літаратурнай частцы музея значнае месца займаюць рэдкія выданні беларускіх кніг, між іншым — старадрукі, як напрыклад „Хроніка літоўская, жамойцкая” і „Хроніка Быхаўца”. Ёсць у музеі кнігі вядомых мастакоў слова, лісты ад паважаных у грамадстве людзей. Сабрана шмат даследаванняў, часопісаў, артыкулаў, успамінаў, перакладаў. У экспазіцыі — здымкі вядомых пісьменнікаў і іншых дзеячаў культуры, рукапісы твораў, кнігі з аўтографамі-пажаданнямі (сярод іх мы бачылі „Сярэбраны яздок” Сакрата Яновіча).

*(Заканчэнне будзе)*

**ЮРЫ БАЕНА**

Дасягненні польскай навукі ў галіне беларусістыкі сціплыя і няма тут чым асабліва пахваліцца. Праўда, нешта рабілася і робіцца, але не задавальняе гэта не найбольш элементарных у гэтай дзялянцы патрэб, ні тым больш не адлюстроўвае нават скромнай долі фактычна амаль што некранутага ў Польшчы велізарнага пласта беларускай культуры, асабліва ў галіне гуманітарных навук. Таму цешыць кожнае з'яўленне кніжкі, прысвечанай гэтай праблематыцы, хай сабе і неаб'ёмістага зместу. А хібы нагляда-юцца не толькі ў літаратуразнаўстве ці іншых адгалінаваннях навук, але і ў мовазнаўстве. Дагэтуль не існуе беларуска-польскі слоўнік, а выдадзены ў 1962 г. „Падручны польска-беларускі слоўнік" даўным-даўно ўжо не адпавядае з кожным годам узрастаючым патрэбам. Тое ж датычыць і іншых дзялянак. Таму станоўчым зрухам у гэтай галіне трэба лічыць **„Граматыку беларускай мовы. Граматычны мінімум. Частка I"*/**, якую не так даўно выдаў Каталіцкі люблінскі універсітэт.

Аўтарам гэтай граматыкі з'яўляецца вядомы люблінскі вучоны-мовазнавец, прафесар двух універсітэтаў (Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне і Каталіцкага люблінскага універсітэта), ураджэнец Беларусі, Тэотын Рот-Жаброўскі. Вучоны шмат гадоў з'яўляўся выкладчыкам расійскай філалогіі УМКС у Любліне, дзе ў асноўным займаўся гістарычнай граматыкай расійскай мовы, а ў апошніх гадах штораз больш пачала яго цікавіць беларусістыка. Неабыякой нагодай для гэтага стала ўзнікненне чатыры гады таму назад, дзякуючы намаганням выдатнага польскага славіста, прафесара Рышарда Лужнага, Кафедры славянскай філалогіі ў Каталіцкім універсітэце, а ў ёй — трох філалогій : беларускай, украінскай і рускай. Актывізавала гэта беларусазнаўчыя зацікаўленні прафесара Тэотына Рота-Жаброўскага, які стаў і з'яўляецца дагэтуль адным з яе выкладчыкаў. На гэтай кафедры прафесар засяродзіўся галоўным чынам на навуковай працы ў галіне апісальнай і гістарычнай граматык беларускай мовы. А плёнам жа гэтай працы стала неўзабаве ўспомненая „Граматыка беларускай мовы", якая ў 1991 г. выйшла тыражом 1000 экзempляраў.

„Граматыка беларускай мовы" праф. Жаброўскага разлічана перш за ўсё на студэнтаў беларусістыкі Кафедры славянскай філалогіі Каталіцкага універсітэта, таму мае яна, так бы мовіць, спецыфічны характар. Аўтар у даволі сціслай форме даў у ёй нарыс сістэмы моўных форм беларускай мовы, улічваючы яе фанетычныя, графічныя і арфаграфічныя асаблівасці, а акрамя гэтага — словаўтварэнне.

# СІНТЭТЫЧНАЯ ГРАМАТЫКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Пачынаецца яна з уводзінаў, у якіх сінтэтычна прадстаўлена гісторыя ўзнікнення беларускай мовы, а затым яе развіцця. Пасля гэтага вучоны аналізуе яе фанетычныя асаблівасці, паказваючы пры тым і моўны апарат чалавека, гукі і літары, склад, націск, фанетычную транскрыпцыю, падзел фанем (галосныя і зычныя), спрашчэнне іх груп, прыстаўныя гукі, пераход і ў ы, чаргаванне гукаў. Дае ўзоры фанетычнай транскрыпцыі, карыстаючы лацінскім і грамадзянскім варыянтамі.

У раздзеле „Графіка і арфаграфія" прадстаўляе азбуку, гісторыю беларускага пісьма і прынцыпы сучаснай беларускай арфаграфіі, а ў раздзеле „Словаўтварэнне" — састаў слова, складаныя словы, змяненні ў марфалагічным складзе слова, немарфалагічныя спосабы тварэння слоў.

Найбольш месца ў I частцы „Граматыкі беларускай мовы" прафесара Жаброўскага адведзена марфалогіі. Аўтар засяродзіўся ў ёй не толькі на граматычных значэннях і прынцыпах выдзялення часцін мовы, але больш дэталёва на ўсіх часцінах мовы: назоўніку, прыметніку, лічэбніку, займенніку, дзеяслову, прыслоўі, а ў канцы кніжкі — службовых словах, г. зн.: прыназоўніках, злучніках і часціцах, а акрамя гэтага — выклічніках, катэгорыі стану і мадальных словах.

Вучоны прааналізаваў у ім, між іншым, усе тры скланенні назоўнікаў, прыметнікаў, іх поўныя і кароткія формы і ступені параўнанняў, а таксама скланенне займеннікаў. Прадставіў пераходныя і непераходныя дзеясловы, іх станы, трыванні, асновы і лады, дзеепрыметнікі незалежнага і залежнага станаў, дзеепрыслоўе. Паказаў таксама значэнне і падзел прыслоўяў, іх утварэнне і ступені параўнання.

Агульна кажучы, прафесар даў вельмі сінтэтычны, але цэласны нарыс асноў беларускай граматыкі, галоўным чынам, марфалогіі, які мае навуковы характар і які з'яўляецца першай гэтакай граматыкай у пасляваеннай Польшчы. Са зместу відаць, што аўтару добра вядомы не толькі беларускія граматыкі, якія дагэтуль выходзілі ў Беларусі, але і першая „Беларуская граматыка для школ" Браніслава Тарашкевіча, выдадзеная ў 1918 г. пад нямецкай акупацыяй у Вільні, якая ў даваенны час у былой Заходняй Беларусі мела шмат выданняў. Праўда, у кніжцы можна часам сустрэць некаторыя русізмы ці карэктарскія памылкі, але ўвогуле з'яўляецца яна каштоўным і неабходным выданнем як для студэнтаў маладой люблінскай беларусістыкі, так і для ўсіх тых, хто цікавіцца беларускай мовай і культурай.

**ЮРЫ ТРАЧУК**

---

**/ Teotyn Rott-Żebrowski. Gramatyka języka białoruskiego. Minimum gramatyczne. Część I, Redakcja Wydawnictw Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego, Lublin 1991, ss. 119.*

# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**17-03-1989 г.**

Баюся за лёс сыноў. Яны, як і пераважна сучасная моладзь, з заклінаванай будучынёю. Не спрыяе маладым заняпад развіцця краіны. Тупік і духоўны хаос.

Мы, як палітычна-эканамічная сістэма, страцілі кантакт са светам, перасталі быць патрэбны яму (нас можна толькі баяцца, як некалі... гунаў). Рымская імперыя цяпер у Паўночнай Амерыцы, хоць і старая, — утвараючы Заходнюю Еўропу без межаў, з 350 мільёнамі насельніцтва, — не здаецца!

Якія ж перспектывы для камунізму, калі стаў ён сінонімам марноты ды зніштажэння?!

**18-03-1989 г.**

Канец свету! — Барскі абараняе Антона Адамовіча (ад нападкаў Мальдзіса). Таго ж Дзядзьку Антося, пра якога страх было і намёкам заікнуцца ў друку, аж такім „врагом народа" зрабілі яго! А сёння ў „Ніве", вось, калі ласка...

Не верыцца ў шчырасць Барскага. Тут нейкая камбінацыя адбываецца (пакуль што на рахунак Мальдзіса)? (...)

**19-03-1989 г.**

Хадзіў дапамагаць збіраць подпісы пад грамадскім пратэстам супроць транспартаў хлору цераз Беласток (днямі мела месца катастрофа на чыгунцы, у выніку якой толькі дзякуючы шчасліваму збегу акалічнасцяў цыстэрны з вадкім хлорам не разбіліся і не загубілі горад). Ініцыятыва — несумненна „салідарніцкая", але сорамна было адмовіцца (званіў да мяне той жа Мушынскі).

А дзевятай раніцы пасталі мы пад Мікалаеўскай царквою — нядзеля — на тратуары (на цвінтар зайсці і не паважыліся; нейкія młodzi prawosławni спрабавалі турнуць нас наогул з гэтай ваколіцы). Праваслаўныя, што ішлі на абедню, пераважна абыходзілі нас. (Nie wiemy, o co chodzi, i nie chcemy wiedzieć! — казалі некаторыя). Трохі падпісалася інтэлігентаў і... пару маіх знаёмых.

Зусім іначай пайшла справа, калі перайшлі мы на другі бок вуліцы, пад гандлёвыя магазіны, у тлум — „да палякаў".

Ізаляцыянізм праваслаўнай грамадскасці, недавер да ўсяго, што пахне нелаяльнасцю. Тыповы сялянскі легалізм або і парабкоўскі сервілізм. Адгэтуль і бярэцца, таксама, і бяда беларускага нацыянальнага руху; і паланізацыя; усё ў кантэксце: а каб не ўгнявіць „уласьць".

Падобным чынам рэагавалі і вясковыя палякі, заўважыў я. Гарадскія падпісваліся без агітацыі.

**23-03-1989 г.**

На 71-х угодках БНР, арганізаваных БАСам (у тэлеглядзельнай залі Дома студэнта, што ў парку ля вул. Акадэмічнай; 19-21 гадз.). З Мірановічамі і Туронкам, які меў даклад. Цікава выступіў і Алег Латышонак.

Былі прывітанні і дэкларацыі ад маладапалякаў з NZS ды „Салідарнасці", і ўгодкавая дэкларацыя БАСу. Прыехалі студэнты з іншых гарадоў, м.ін. з Ольштына (— Пац). Каля сотні, што не так мала, улічыўшы паўлегальнасць мерапрыемства. — Вёў Юрка Ляшчынскі. Сцяг бел-чырвона-белы, лозунгі (напр.: „25 Сакавік — незалежнасць" на франтоне будынка).

Першая такая патрыятычна-беларуская імпрэза, на якой я не мусіў выступаць; ужо было каму. Неяк і сумна — увык я, ці як, да ролі зоркі?..

**29-03-1989 г.**

Барскі да мяне: — Кандыдатамі ў паслы будучага Сейма ПНР ад імя беларусаў я бачыў бы Туронка, цябе і сябе, але ўжо здарылася іначай... Нехта аформіў іншыя кандыдатуры, Бушкі з Гайнаўкі, Карпюка з Бельска, і Ласкевіч з Беластока. — Зянюк (як адзін з кіраўнікоў ПРОНу)?

Барскі ўгнявіўся! З Барскім чамусьці натужліва змагаецца менавіта Зянюк.

У палітычна зменена Польшчы не верыцца ў выбар, хоць аднаго, так сказаць, чыста-беларускага пасла. Ва ўмовах канкурэнтнай барацьбы за галасы выбаршчыкаў няма шанцаў для беларускай праграмы, якая цяперашнім масам відавочна другарадная (папулярнейшай была б рэлігійна-праваслаўная).

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— **Ежы Мушынскі — малады дзеяч падпольнай „Салідарнасці", цяпер дырэктар „Польскага радыё" ў Беластоку;***

*— NZS —Niezależny Związek Studentów; **тады ў падполлі.***




*ВіКТАР ШНІП*

* * *

Начнога праспекта чарнюткія вокны  
Нібыта люстэркі, таемна бліпчаць.  
І сцяг пад дажджамі каторы дзень мокне  
На Доме урада, і кветкі ляжаць  
Ля помніка Леніну. Ёсць яшчэ людзі,  
Што вераць у шчасныя дні для душы.  
І душы то будуць, а мы то ці будзем?  
Чарнобыльскі пыл не змываюць дажджы.  
Іду, нібы цень, па праспекце няспешна,  
Цікаўны, ў пустыя вітрыны гляджу.  
Чытаю плакаты і мне ад іх смешна  
І смешна, напэўна, таксама й дажджу.  
І зрэдзь па праспекце машына прамчыцца,  
Нібыта нячысцік сядзіць за рулём,  
Які прагарланіў: "Мне лепей разбіцца,  
Чым жыць болей гэтак, як мы ўсе жывём!"  
І дождж не сціхае, змываючы смецце  
І вецер сцюдзёны з дрэў лісце ірве.  
Як радасці мала было ў гэтым леце,  
Як многа жаўцюткага лісця ў траве!  
Дахаты іду, там даўно ўжо чакаюць  
І жонка, і дзеці, і светлы спакой.  
І горад дажджы, як агонь, заліваюць  
І дым, нібы д'ябал, плыве над зямлёй.

*МІРА ЛУКША*

* * *

Адчыні ўсе брамы  
ў стары сад  
у найбольшы  
незалежны сад у свеце

Дзедаў сад  
на скрыжаванні вятроў  
на чарнобылі раса  
мае босыя ногі

і з кучы церняў  
пырсне ружа

шэры мур у воспе куль  
старыя жанчыны стаяць  
слухаюць ветру  
кроў цямнее  
ў шчыльных бёдрах  
з якіх чужыя забралі сыноў

За мурам за садам  
мяжа княства

* * *

у слотны вечар  
сабраўся  
на вуліцы  
тлум:  
чакае  
твайго палёту

балюча рвуцца  
ржавыя харугвы  
вецер нізка нясе  
папяровую мову  
дарослых людзей

у слотны вечар  
тлум гадуе чаканне

*БАРЫС РУСКО*

**МІНЕЯ**

Разбілі мы збан, бо праглі сябе,  
як вада вялікай Ракі прагне пацалунку  
Лотаса.  
Кветка духмяная, галінка гібкая сну,  
не выпілі мы асалоды нашых целаў.  
Ты, каго ў танцы не крануў  
рог раз'юшанага звера,  
загінула ад Мінатаўра.  
Святар!  
Твой Бог мёртвы.  
У чорным прадонні пячоры смурод.  
Будзь яго пахам на векі вечныя.  
Ад маёй роспачы лопнула неба,  
а слёзы цякуць струменем  
да святой Вады.  
Іду да Цябе, Мінея!  
У Краіне на Захадзе спачну  
сярод салодкіх слоў Тваёй Любові.




### ПАВАЖАНЫ СПАДАР М. ПАНФІЛЮК!

Вы ў „Ніве" н-р 16 закідваеце мне, што я ў Евангеллі ад Мацвея, р. 5 в. 22, свядома „перакруціў" Слова Божае, бо замест "шалёны" напісаў "бязбожнік". Не, я нічога не перакруціў. Вы перакладваеце гэтыя словы з рускага выдання, а я пераклаў іх з польскага, з 1980 г. Я пісаў, з якога выдання я пераклаў, але рэдукцыя гэтае апусціла, а Вы не спрабавалі заглянуць у польскую Біблію. У польскім выданні напісана: „A ktoby mu rzekł „Bezbożniku" podlega karze piekła ognistego". Польскі пераклад Евангелля са старагрэчаскай мовы быў зроблены пазней чым рускі і таму, думаю, ён больш дакладны. Так што не страшыце мяне Апакаліпсісам Іаана Багаслова.

Другі закід: слова „векавы" паводле слоўніка азначае таксама — стары, а гэта не значыць, што мае больш чым 100 год. А ў вершах дат не ставіцца, а царква „на крыві" была пабудаваная пасля смерці Аляксандра II, які загінуў у 1881 г. і з таго часу пакрывалася яна пылам і брудам. Не толькі за камуністаў у паветры быў пыл. Так што не будзьце такі дакладны, спадар М. Панфілюк, і не шукайце маны, там дзе яе няма і прачытайце ў слоўніку, што значыць эпітэт, метафара, а асабліва гіпербала, тады не будзеце чапляцца.

Трэці закід: аб сварках Вашых з мясцовай бюракратыяй Вы самі хваліліся і бралі сабе гэта за гонар. Ці гэта не была праўда?

Чацвёрты закід: аб Вашых паклёпах мог бы я многа напісаць. На жаль, няма ў мяне часу шукаць іх у „Ніве". Падаю толькі для прыкладу „Ніву" н-р 28 ад 12.07.1992 г. Апрача таго спадар Васіль Петручук прыслаў мне лісты, якія Вы да яго пісалі. Там бачу дзесяткі паклёпаў і нецэнзурных слоў. Як мог пісаць такое чалавек, які лічыць сябе веруючым хрысціянінам? Божа, чаго там няма! А Ваш артыкул „Дух Сталінізму, Пагарды і Хлусні" у „Голасе Радзімы"! Гэта востры паклёп на Петручука, гэта не памылкі яго. Вы закідаеце яму там нацыяналізм, варожасць і нянавісць да новых улад Польшчы і многа, многа іншага. Як у Вас не задрыжала рука, калі Вы гэта пісалі? Не разумею Вас.

Няхай чытачы асудзяць, ці ўдалося Вам мяне „абдурыць", як Вы гэта пішаце.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

### ЦІ ТОЛЬКІ БЕДНЫЯ БУДУЦЬ АПРАЎДАНЫМІ

У XXIX частцы „Беларускіх капіталістаў" (8-мы н-р „Нівы") аўтар прыводзіць наступнае выказванне сямідзесяцігадовага селяніна: „ У Біблії сказано выразно, што так як вэрблюд не пралезе праз ігольнэ вухо, то так багаты не пралезе ў Божэ Царство". Гэты селянін спасылаецца на вядомую фразу з Евангелля паводле Мацвея, 19 раздзел, в. 23-26, дзе Хрыстос вучням сваім сказаў: Запэўніваю вас, што ТРУДНА багатаму ўвайсці ў Царства Нябеснае. Паўтараю: лягчэй вярблюду прайсці цераз ігольнае вуха, чым багатаму ўвайсці ў Царства Божае. Пачуўшы гэта, вучні яго дужа дзіваваліся і спыталі: — Хто ж тады зможа ўратавацца? Ісус, глянуўшы на іх, адказаў: — Людзям гэта немагчыма, але Бог усё можа". Хрыстос ясна сказаў, што трудна багатаму ўвайсці ў Царства Нябеснае, але не сказаў, што немагчыма. А цікава, як аўтар і яго размоўца разумеюць „ігольнае вуха"? Найхутчэй пэўна думаюць, што гэта вуха ў іголцы, у якое краўцы завалакаюць нітку. А ў сапраўднасці „Ігольнае вуха" гэта назва брамы ў колішнім Іерусаліме. Брама гэтая была так нізкая, што вярблюд не мог пад ёю прайсці. Каб стаў на калені, то прапоўз бы, але поўзанне на каленях не ў звычаі вярблюдаў.

Я згаджаюся, што багатаму цяжка ўвайсці на Неба, асабліва капіталісту. Але багацце не грэх, калі яно сумленна здабытае сваімі рукамі і розумам, і дае яно людзям карысць. Багатыя капіталісты з Амерыкі, Англіі і другіх дзяржаў дапамагаюць бедным і пакрыўджаным на ўсім свеце, не абмінаючы і нас. Вядома таксама, што багацце часта ставіцца на першым месцы перад Богам, таму Хрыстос і сказаў сваю прытчу. А колькі бедных, жабракоў не ўвайшлі і не ўвойдуць на Неба? Мільёны. Ці тыя, што здзекваліся над людзьмі ў Курапатах, Катыні, на Калыме і ў іншых месцах, што былі даносчыкамі, што на працягу 70 гадоў хлусілі ў жывыя вочы, што разбуралі цэрквы, касцёлы і іншыя святыні, увойдуць у Царства Нябеснае? Усе яны былі бедныя як касцельная мыш у параўнанні з сапраўдным багацеем. Але многія колішнія і сённяшнія фізічна бедныя — людзі багатыя духова. і іх Хрыстос пpыме ў першую чаргу ў сваё Царства.

Можа хтосьці паставіць мне закід, што я агрэсіўны, да ўсяго чапляюся. Скажу вам тут, што апостал Пётр, вучань Хрыста, неадукаваны просты рыбак, быў таксама агрэсіўны і выбуховы. А вось Іуда быў вельмі ціхі, пры тым культурны, інтэлігентны і на свой час вучоны. І што зрабіў Іуда, а што зрабіў Пётр для Хрыста? Адкажыце!

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

### МЫ, ДЗІКІЯ ПТАХІ...

У першай частцы сваёй простай, на сялянскі лад, "рэцэнзіі" на кніжку Міры Лукшы "Дзікі птах верабей" я стараўся праўдзіва паказаць вобраз герояў і ацаніць вартасць пяра аўтаркі. Вядома, мне далёка да тых, хто ўмее напісаць навуковы агляд пра кніжку. Чытаў я такія ацэнкі, але пераважна яны такія вучоныя і для вучоных людзей, што селянін аж загубіцца ў гэтых усіх філасофіях. Але я ганаруся, што знаходжуся ў гурце дзікіх птахаў, хоць толькі вераб'ёў, якіх мала хто заўважае і паважае, невучоных, слабых аратараў... І можа таму кніга Міры Лукшы мне асабліва дарагая, бо ў ёй выступаюць пераважна простыя і "шэрыя" людзі-беларусы. Дзелімся з імі іх складаным лёсам, жывем з імі. Цяжка быць звычайным патрыётам. Хто працуе ў "Ніве" і на беларускай ніве, ведае гэта.

Навела "Хто мяне так навучыў" гэта быццам гісторыя маёй маці, якая таксама ў маленстве засталася сіратою, служыла ў суседняй вёсцы Іісток у гаспадара Сцяпана, а гаспадыня, Ганна, вельмі палюбіла сваю маленькую служанку і была для яе як родная маці. І не мела мая мама, як шмат іншых дзяцей у той час, ніякіх шанцаў на іншы лёс, на адукацыю, на шчаслівае жыццё. А прыгожая і пачцівая Нінка з навелы "Нінка, адно жыццё", як многія іншыя ў пяцідзесятыя гады выехала "на Прусы" на заробак, па новы лёс... А мы ўсе хіба такія людзі, на жаль: калі хто моліцца, то, можа, і не падамо руку для дапамогі, а хутчэй піхнем бедалагу ў прорву! Ці гэта натура чалавечая такая? Прыраўноўваюць кепскага чалавека да звера, але ці ён такое зробіць? Як далёка адышлі мы ад натуры...

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




### МАЯ РУОДНА МОВА

Кажут, што мова мая „хахлацка".
Што не трэбо ею карыстацца.
Брыдка вана і ніпатрэбна ўжэ.
Сьмешна, дзіўна і ніпанятна...

Мне вана наймільша з моў.
Тут харошых мільён слоў.
Ею гаварылі мае продкі.
Я выссала яе з матчыных грудзей.

Не хачу, каб вана загінула.
Мае дзеці будут яе знаць.
Ні пазволю ім, каб забылісэ,
Што ў дзяцінстве сваёй мовы навучылісэ.

### З "МАЛЫМ БАЛТЫКАМ" У ЛІДЗЕ

Прабываючы ў мінулым годзе ў Кашаліне, скарыстаў я з нагоды і ў характары перакладчыка паехаў разам з мясцовым ансамблем "Малы Балтык" на канцэрты ў Беларусь. Кашалінскі дзіцячы ансамбль запрасіў прыехаць калектыў "Лідчанка" з Ліды. Лідчане прывіталі нас хлебам і соллю, закватаравалі ў гасцініцы "Ліда" і пазнаёмілі са сваім горадам.

У Лідзе да вайны пражывала 35 тысяч жыхароў, цяпер жыве там 80 тысяч людзей. Горад да вайны меў 85 вуліц, цяпер 120. У Лідзе, якая толькі на 33 гады малодшая за Маскву, знаходзіцца 650-гадовы замак Гедыміна, найбольшы замак на гэтых землях. Ёсць некалькі святыняў, многа школ, заводаў і вайсковых часцяў. Наведалі мы таксама музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку, які аднаўляюць рабочыя польскай фірмы "Budimex". Далі мы канцэрт у вёсцы Мінойты, у аграмадным, пустуючым і халодным доме культуры. Наведалі таксама Менск, Заслаўе, Юрацішкі і Воранава. Нарэшце выступілі з канцэртам у Лідзе, дзе публіка прыняла маладых артыстаў з Польшчы проста энтузіястычна.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

### КАХАННЕ МАЦНЕЙ БУРЫ

Было гэта ў разгар лета. Выйшлі закаханыя пары на шпацыр.

Усе людзі бачылі, якія маладыя шчаслівыя. Ідуць, трымаючыся за ручку, заглядаюць сабе ў вочы ды радасна ўсміхаюцца.

Старэйшым прыпаміналіся іх маладыя гады і першае каханне.

Маладыя, якія не мелі каханых, марылі аб праўдзівым каханні.

Марэк і Крыся ішлі, абняўшыся. Ішлі яны памалу, бо Крыся была калекай. Прыйшлі ў парк. Ім пашанцавала! Адна лаўка была свабоднай. Селі і пачалі размову аб сваёй будучыні.

Раптам сонца скрылася за хмару. Пахаладала. Здалёк пачуўся гул.

Усе пары кінуліся хутчэй, дзе хто мог. Хто ў гарадскі аўтобус, хто ў краму. Пакуль Крыся і Марэк дайшлі да найбліжэйшай крамы, рынуў лівень. Расшалелася бура! Марэк прытуляў Крысю і пытаў, ці ёй не холадна. У краме было многа людзей, якія, як і яны, схаваліся тут ад дажджу.

— Ці далей будзеш са мной? — спытала Крыся. — Можа ўжо пераканаўся, што з калекай цяжка?

— Мілая, — прашаптаў Марэк, — маё каханне мацнейшае, чым такая навальніца.

**АЎРОРА**




### ЧАСТКА XXXVIII

З вялікай увагай праслухаў я выказванні больш чым васьмідзесяцігадовай жанчыны, якая досыць доўга аднеквалася і не хацела гаварыць аб тым, „ у чым і вучоныя не вельмі разбіраюцца", аднак у канцы канцоў уцягнулася ў размову і выказала многа заўваг, якія маюць істотную дакументальную вартасць:

„Што ты мяне, саколіку, пра такіе разумны рэчы пытаеш? Я ж старая вясковая баба. Мне ўжэ за восемдзесят. Я нават крыху як праз мглу царскі час помню. Мы былі ў бежанстве і толькі як скончылася вайна бальшавікоў з палякамі, вярнуліся з бацькамі ў сваю вёску. Калі гэта было? Ну, дакладно то я не ўмею сказаці — вельмі даўно гэто было. Ну, замуж то я выйшла дзесь так можэ ў дваццаць восьмом року. Сукенку то я мела купну, але туфляў то не мела сваіх. Пазычыла ад аднае багатае дзеўкі, а после яе бацькам два дні пры жніве жала. Ты мяне пытаеш пра капіталізм. Ну а тады бо хібо ні быў капіталізм? То ж і тады то быў капіталізм. Мне то так здаецца, што тады то тымі ўсімі капіталістамі былі жыды, а можэ крыху то і было палякаў. Ад нас хлопцы і мужчыны то

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

хадзілі аж пад Беласток біць на шосах камене. Вельмі цяжко працавалі. Колькі зараблялі, то я дакладно не знаю. Помню толькі, што за заробок у дзень мог купіць такі хлопец паўтара кіля цукру. Ведомо, што ніхто ў нас адразу паўтара кіля цукру не купляў. Калі ўжэ сям'і добрэ велосе, то куплялі два разы ў рок па паўкілі, раз перад Вялікаднем, раз перад Калядамі. А давалі той цукар толькі малым дзецям, завязаўшы ў шматку. Ну, часам цяжко хворым.

Ну то значыцца, здаровы мужчына мог зарабіць так многа, а мы бабы то ішлі ў Нараўку або ў Ялоўку, або ў Міхалова да жыдоў і там працавалі ад цямна да цямна. Ну то за гэто, то я ўжэ помню, што зараблялі да сарака ці пяцьдзесят грошай. Хадзіла і я на тые заробкі. Так, бывало, за дзень уходзішсе, што ідучы назад дваццаць-пятнаццаць вёрст, то пальцы аб камені пазбіваеш да крыві. Было ў мяне такое, што ідучы заснула, зышла з сцежкі і просто лобом удэрыла ў бярозу. І то так моцно ўцелася, што пакацілася назад і ледво ўстала. У мяне сегодня больш чым мільён рэнты, то я жыву ўсё адно як царыца. Але калі ўсюды чую аб тых прыватызацыях, то думаю, што зноў можэ вернуцца тое, што было ў той даваеннай Польшчы. Ну, то калі б мело штось такое стацца, то ўжэ лепш пайсці да рэчкі і баўтухнуць у глыбокае месца. Такого жыцця як тады было, то ўжэ ні дай пане Божэ нікому. Ну яшчэ хлебнулі гора пры немцах. Ну, палякі марылі людзей, але ў нас то яны нікого ні забілі, а як прыйшлі немцы, то зараз пахваталі людзей, пастралялі, а колькі ж маладых вывалаклі ў Германію. Ну то ў тых немцаў то таксамо быў хібо той капіталізм? Ну, праўда, у іх то быў ён без жыдоў, бо немец страшно іх мучыў і забіваў так, што панішчыў усіх дашчэнту. Ну, але гаворат, што ў Амерыцы то таксамо капіталізм, а там жэш, людзі кажут, жывут у такой раскошы, што кожны месяць мяняют кварціры і машыны.

А што касаецца, як кажэш, беларускіх капіталістоў, то я такіх не знаю. Ну, е ў нас такіе, што гандлем займаюцца, то я ні знаю, чы гэто капіталіст, чы не капіталіст. А чы ён беларус, чы не беларус, то адно ліхо. Калі чалавек што купляе, то ён глядзіт колькі што каштуе, а ні тое, чы той, хто прадае, беларус, чы не беларус. Па-моему, ніякае карысці ад гэтых капіталістоў не будзе. Будзе толькі адно вялікае ашуканство. Ужэ гэто ўсё е цяпер, а будзе яшчэ горш. Як я пагляну ў тэлевізары як гэты ў Сеймаві грызуцца, то ведомо, што яны давядут край да вялікае беды. Я то малюсе толькі за тое, каб мне дажыць так як я жыла пачынаючы ад Герка. Ну, а маладые, то яны як сабе хочут. Калі ім капіталізм патрэбны, то няхай сабе яго мают. Каб толькі пасля не плакалі".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## СВЯТЫЯ

Чарнобыль зрабіў
Нас, беларусаў, святымі.
Бо можам атаясамляцца з тымі
Нябеснымі прыбышамі,
Акрэсленымі ў святым пісанні, -
Апрамененыя,
Святло выпраменьваем самі.
І гэтае аўры святой,
Што світае над усёй Беларуссю -
Над сусветнаю сіратой,
Не на адно стагоддзе
Годзе!

Сапраўды,
Сціпласцю пракавечнай,
Ласкай сардэчнай,
Маўклівай пакорай,
Надзеяй белазорнай,
Сваім нашчадным наівам,
Сваім характарам сарамлівым,
Сваёй павагаю да бяды
Святымі
Беларусы былі заўсягды.
З ласкі лёсу-айчыма
Раскашуемся рэшткамі,
Сінімі-сінімі свет бачым
Вачыма.
Божа!
Зрабі святых грэшнікамі...

А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў,
Каб насіла, каб фарсіла,
Каб абцасікам да гулу
Біла-біла, не разбіла
Шараваную пяском-шчырцом падлогу,
Каб абула
Не ў апошнюю дарогу...

РЫГОР БАРАДУЛІН

З вучнёўскай творчасці

### БУСЕЛ

Скажу вам, дзеці,
Важную навіну:
Прыляцеў ужо бусел
На сваё гняздо!
Стаў над ім,
Паварушыў крыламі,
І заклекатаў:
"Вось я буду з вамі!
На Беларускай зямлі
Пражыву вясну і лета...
Вось мая Айчына,
Вось гняздо над хатай...
Тут буду лятаць
Пасярод палёў,
Выхаваю дзетак,
Як бацька і дзед..."
Дзеці пляшчуць у рукі,
Сляза ў вачах блішчыць:
"Вітай, бусел, бусел,
Няхай і табе шчасціць!"

ТАМАРА ФІЛЯНОВІЧ

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Калі месяц ранняю вясною здаецца чырванаватым - да вялікага цяпла.

Калі зайцы вясною доўга не ліняюць - чакай працягу халоднага надвор'я.

Сонца весела гуляе на Звеставанне (7 красавіка) - такое ж сонца будзе і на Вялікдзень.

Белы Вялікдзень (снежны) - вясною мала травы, улетку мала масла.

Ранішнія зарніцы надзвычай хутка перагараюць - перад халодным надвор'ем.

На зямлю і дахі лёг іней - перад малавоблачным, без ападкаў надвор'ем.

Птушкі вечарам кормяцца болей звычайнага - перад непагаддзю.

Жаваранак прылятае на праталіну, шпак - на прагаліну, журавель - з цяплом, а ластаўка - з лістом.

Жаваранкаў не чуваць з самай раніцы - будзе дождж ці ўвогуле дрэннае надвор'е.



*Красавік прыйшоў з пралескамі...* **Фота Я. Целушэцкага**

## П Ы Х

*(Беларуская народная казка)*

Жылі-былі дзядулька, бабулька ды ўнучка Алёнка. І быў у іх агарод.

А ў агародзе тым і капуста, і бурачкі, і моркаўка, нават і рэпка жоўтая расла.

Захацелася дзеду рэпкі, вось і пайшоў ён у агарод. А ў агародзе горача-горача, а ў агародзе ціха-ціха. Толькі пчолкі гудзяць ды камарыкі звіняць.

Прайшоў дзед градку з капустай, прайшоў градку з бурачкамі, прайшоў градку з моркаўкай... А вось і рэпка.

Толькі нахіліўся дзед рэпку выцягнуць, а пад кустом хтосьці: "Ппы-ы-хх! Ппы-ы-хх! Ці не дзедка гэта? Ды ці не па рэпку ён?"

Спужаўся дзед ды як пабяжыць - каля моркаўкі, каля бурачкоў, каля капусты. Ледзь-ледзь да хаты дабег, на лаўку сеў, аддыхацца не можа.

- Ну што, дзедка, прынёс рэпку?

- Ох, бабка, там пад кустом хтосьці страшны сядзіць і пыхкае. Я ледзь адтуль уцёк.

- Ды кінь ты, дзедка! Вось я сама пайду, дык напэўна рэпку прынясу.

І пайшла бабка ў агарод. А ў агародзе горача-горача, а ў агародзе ціха-ціха. Толькі пчолкі гудзяць ды камарыкі звіняць.

Прайшла бабка градку з капустай, прайшла градку з бурачкамі, прайшла градку з моркаўкай... А вось і рэпка.

Толькі нахілілася бабка рэпку цягнуць, а пад кустом хтосьці: „Ппы-ы-хх! Ппы-ы-хх! Ці не бабка гэта? Ды ці не па рэпку прыйшла?"

Спужалася бабка ды хутчэй бегчы - каля моркаўкі, каля бурачкоў, каля капусты. Ледзь да хаты дабралася. На лаўку села, аддыхацца не можа.

- Ой, дзедка, праўду ты казаў: там пад кустом хтосьці страшны сядзіць і пыхкае. Ледзь я адтуль уцякла.

Пайшла Алёнка ў агарод. А ў агародзе горача-горача, а ў агародзе ціха-ціха. Толькі пчолкі гудзяць ды камарыкі звіняць.

Прабегла Алёнка градку з капустай, прабегла градку з моркаўкай. А вось і рэпка.

Толькі нахілілася Алёнка рэпку цягнуць, а пад кусцікам хтосьці: "Ппы-ы-хх! Ппы-ы-хх! Ды ці не Алёнка гэта? Ды ці не па рэпку прыйшла?"

Засмяялася Алёнка ды як закрычыць звонкім галаском:

- Так, так! Гэта я, Алёнка! Бабульцы, дзядульку па рэпку прыйшла...

А на градцы нешта зноў як запыхкае: "Ппы-ы-хх!" Нахілілася Алёнка над градкай - глядзіць туды, глядзіць сюды. І ўбачыла: ляжыць нейкі калючы клубочак ды пыхкае: "Ппы-ы-хх! Ппы-ы-хх!" Засмяялася Алёнка ды кажа:

- Ах ты, вожык, ах ты, калючы, гэта ты дзядульку ды бабульку напужаў, гэта ты іх ад рэпкі прагнаў?

А вожык выцягнуў свой носік ды зноў: "Ппы-ы-хх! Ппы-ы-хх!"

Пацягнула Алёнка рэпку раз, пацягнула два, пацягнула тры - рэпка так і выскачыла з зямлі. Ды якая! Вялікая ды круглая, жоўтая ды салодкая.

Узяла Алёнка рэпку ў рукі, узяла вожыка ў фартушок і пабегла дадому. Каля моркаўкі, каля бурачкоў, каля капусты. Мігам дахаты дабегла.

Сустракае Алёнку дзедка, сустракае Алёнку бабка - пытаюцца:

- А рэпку ты прынесла?

- Вось вам, дзядулька, бабулька, і рэпка.

Уцешылася бабка, уцешыўся дзедка. Ну і ўнучка, ну і Алёнка!

- А як жа - пых? Не баялася ты яго?

Расхінула Алёнка свой фартушок ды і кажа:

- А вось вам і пых!

Смяецца дзедка, смяецца бабка. Ну і малайчына Алёнка, ну і смелая ўнучка!

*Вершы Віктара Шведа*

### ПАКУПКА

У прадуктовы магазін
Нешта купіць прыйшоў Марцін.
І вельмі пачала дзівіцца
З яго пакупкі прадаўшчыца.

- Ці сапраўды прасіла мама
Цукеркаў аж два кілаграмы,
А бульбы, дык падумай сам,
Толькі пятнаццаць дэкаграм?

### ЛІДЭР

Імчыцца Янка ў школьнай велагонцы
Як віхор, ужо не чуе ног.
А дарога цягнецца бясконца...
Мэта ўрэшце - Янка перамог.

Вучні ўжо сышлі з веласіпедаў,
Пераможцам раздалі прызы.
Янка лаецца: - Хацеў бы ведаць,
Хто размантаваў мне тармазы?

### МАХЛЯР

Доўга ўжо сядзіць Валерка
Над паўнюсенькай талеркай.
- У жывоціку не пуста -
Трэцюю ем хлеба лусту...

- Еш, сыночак, заўжды трэба
Вельмі многа есці хлеба.
- Ды не з'еў я, татка мой,
Лусты першай і другой.

### СЫНОК НА ШНУРОК

Вылез з ванны невялічкі сын,
Цэлы ўжо ад холаду дрыжыць.
- Мокрыя я маю валасы,
Трэба неадкладна іх сушыць.

Сваёй маме робіць ён папрок:
- Мокры я ад галавы да ног.
Як мяне павесіш на шнурок,
Каб я хутка абсушыцца мог?

### ДОБРЫ ПРЫКЛАД

Папрасіў настаўнік Шуру,
Каб на эластычнасць скуры
Падаў добры прыклад,
Пэўны і нязвыклы.

- Мая цётка многа ела,
Незвычайна патаўсцела,
Не лопнула скура -
Жыве цётка Нюра!

### ДОПЫТ

- Сачыненне тваё, Лёва,
Зроблена беспамылкова.
Ты павінен нам прызнацца:
Бацька напісаў, ці маці?

- Я не ведаю таксама...
Тата дапамог, ці мама?
Мо яшчэ дзядуля трошкі?
Я ўжо моцна спаў у ложку!

### ЛАГІЧНЫ АДКАЗ

Лае раніцай бабуля
Неслухмяную Ганулю:
- Калі ты не будзеш ціха,
Прыйдзе ў нашу хату ліха

І цябе з'есць воўк шалёны,
Як у "Шапачцы чырвонай"...
- Воўк раней жа з'еў бабулю, -
Адказвае ёй Гануля.

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Прыемнае слоўца - вясенні дзень.
Рынуў слаўцом, як пярцом.
Які павядач, такое яго паведанне.
Прыказку скажа, як вузлом звяжа.
Шчыраму сэрцу і чужая болька колка.
Лепш першы гнеў, як апошняя ласка.
Добрага ніколі не замнога.
Лепей асцярожна, чым варожна.
Не рабі другому, што не люба самому.
Не за нас свет пачаўся, не за нас і скончыцца.

## НА ПАРОЗЕ САМАСТОЙНАГА ЖЫЦЦЯ (6)

Чалавек дарослы той, хто разумее пачуцці другіх людзей, тым больш блізкіх, стараецца не прыносіць ім непрыемнасцей нават у малым. Мера дарослацці, самастойнасці вызначаецца сур'ёзнасцю тваіх адносін да жыцця, да тых, хто побач. Вось, для прыкладу, два погляды на адну праблему з розных пазіцый - твайго равесніка і яго маці.

Сын: "Мне ўжо 14 год, але мне ўсё забараняюць. Ніякай самастойнасці. Крыўдна, але бацькі нікуды мяне не пускаюць, хіба што ў краму ды ў школу. І ўсё! Я з імі пастаянна сваруся з-за гэтага. Мне нельга ні ў кіно схадзіць, ні на дыскатэку, ні нават у басейн. Мне забаронена сябраваць з дзяўчынай, гуляць вечарам. Нават да нас дадому сяброў не пускаюць, таму сяджу я адзін дома і разважаю аб тым, маюць рацыю мае бацькі ці не. Не ведаю, як мне заваяваць у іх права быць самастойным. Я ж ужо зусім дарослы".

Маці: "Сын лічыць сябе самастойным. Але ж я ведаю, як далёка ён ад разумення жыцця, ад уяўлення сапраўднай самастойнасці. І расце ён, як мне здаецца, абыякавым, эгаістычным. Галоўнае для яго - забавы, свабода ад абавязкаў. А хочацца ж засцерагчы сына ад благога. Але як гэта зрабіць?"

Ты ж не будзеш сцвярджаць, што бацькі, апякаючы цябе, кіруюцца нейкім злым намерам? Імі рухае жаданне засцерагчы цябе ад горкага вопыту, расчараванняў, дрэннага ўплыву. Зразумела, іх хвалюе і твая першая закаханасць (асабліва маці). Ім хочацца, каб твае адносіны з сябрам (сяброўкай) былі чыстымі і цнатлівымі, каб першае пачуццё было прыгожым. Ад таго ж, як развіваюцца гэтыя адносіны, у многім будзе залежыць тваё будучае жыццё, сямейнае шчасце. Таму натуральна, што бацькі хвалююцца і перажываюць за цябе. Ды інакш і быць не можа...

Было б несправядлівым сцвярджаць, што бацькі заўсёды маюць рацыю. На жаль, не ўсе і не заўсёды. Напрыклад, праўда не на іх баку, калі ў дружбе хлопца і дзяўчыны яны схільны бачыць толькі негатыўныя бакі і дапускаць адмоўныя вынікі іх адносін, маўляў, "дружба адцягвае ад вучобы" або "закаханасць у такім узросце з'яўляецца прыкметай распушчанасці". Не маюць рацыі бацькі і тады, калі аргументуюць свае забароны няпэўнымі меркаваннямі. Напрыклад, дзяўчыне з сям'і інтэлігентаў забараняюць дружыць з хлопцам толькі таму, што ў яго маці - рабочая, а бацькі зусім няма. У такіх выпадках маладыя людзі павінны мець дастаткова мужнасці і маральнай перакананасці, каб даказаць бацькам іх памылку.

Таму так важна падумаць аб тым, як знайсці найлепшы эмацыянальны тон у адносінах з бацькамі, і ад гэтага залежыць, ці складуцца паміж вамі блізкія, цёплыя і добразычлівыя адносіны. А залежыць гэта ад таго, ці зможаш ты сам хоць чым-небудзь даказаць сваю самастойнасць у поглядах на жыццё.

Старайся часцей дзяліць з бацькамі іх клопаты і трывогі, а не толькі падкідваць ім свае, старайся быць іх памочнікам ва ўсім. Толькі тады можна атрымаць прызнанне старэйшымі тваёй дарослацці, самастойнасці, калі будзеш па-даросламу сур'ёзна адносіцца да сваіх абавязкаў і дома, і ў школе.

Чым вызначаецца мера самастойнасці? Напэўна, не толькі вобразам мыслення, сур'ёзнасцю адносін да людзей, але і ўчынкамі, адносінамі да справы. А ты ўжо дастаткова дарослы, каб адказваць за сябе і свае ўчынкі. Калі ты дзелішся са сваімі бацькамі сваімі клопатамі і турботамі, калі стараешся быць іх памочнікам - вось тут, напэўна, і закладваюцца пачаткі твайго будучага самастойнага жыцця.

*(працяг у наступным нумары)*

**В. БАЛЦЭВІЧ,**
**Л. ГАРБАЦЕНКАВА**

<u>Па слядах народных паданняў</u>

## ДЗЯВОЧАЯ ГАРА

Побач з вёскай Дуброва на мяжы Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў размешчаны зарослы лесам высокі ўзгорак, які мясцовыя жыхары называюць Дзявочай гарой. Згодна з легендай, калісьці жыла ў гэтых мясцінах вельмі прыгожая дзяўчына, у якую было закахана мноства хлопцаў. А прыгажуня аб'явіла: яна выйдзе замуж за таго, хто на спаборніцтвах першым узбяжыць з каменем у руках на вяршыню ўзгорка. І вось у прызначаны час дзяўчына села на вялікі валун наверсе гары і падала ўмоўны знак. Хлопцы кінуліся навыперадкі. Адзін з іх, што бег наперадзе, ужо дасягнуў падножжа гары, і тут сэрца яго ад вялікага напружання разарвалася. Другі хлопец дабег да сярэдзіны схілу і таксама зваліўся нежывы. І тады, як кажа легенда, народ пахаваў хлопцаў, а паміж іхнімі магіламі, як віноўніцу трагічнага здарэння, жывой закапалі ў зямлю прыгажуню. На магілах хлопцаў выраслі дубы, а на магіле дзяўчыны - бяроза. З таго часу гару і празвалі Дзявочай.

Легенда зацікавіла археолагаў. Пры пошуках на вяршыні ўзгорка было выяўлена каля двух дзесяткаў курганоў - паўсферычных земляных насыпаў над старажытнымі пахаваннямі. Пры раскопках часткі курганоў у іх знойдзены рэшткі шкілетаў людзей, рытуальна разбітыя пасудзіны, а таксама ўпрыгожанні - пярсцёнак, срэбнае скроневае колца, шкляныя з пазалотай пацеркі. У адным кургане знойдзены рэшткі жанчыны і дзіцяці. Усе знаходкі адносяцца да другой паловы XI стагоддзя і належалі насельніцтву, у культуры якога перапляліся крывіцкія і балцкія традыцыі. Як вядома па раскопках, кожная такая Дзявочая гара была культавым месцам, прысвечаным у старажытнасці язычніцкай багіні кахання. Курганы ў дадзеным выпадку напэўна былі пахаваннямі жрыц багіні. Знаходзіць сваё тлумачэнне і наяўнасць мужчынскіх пахаванняў: як апісваў у пачатку нашай эры адзін рымскі аўтар свяцілішча на тэрыторыі сучаснай Польшчы, звязанае з культам пладнасці, простымі жрыцамі на ім былі жанчыны, а галоўным святаром - мужчына, апрануты ў жаночае адзенне.

**ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ**

## З НАРОДНАГА ГУМАРУ

- Усё жыццё змагаюся, - скардзіўся гультай. - Да абеду змагаюся з голадам, а пасля абеду - са сном.

* * *

Майстар (прымаючы ў кліента касцюм):
- Вам гузікі перашыць трэба? Гэта мы мігам зробім, прыходзьце праз тыдзень.

* * *

Маці ўшчувае сына-гультая.
Сын апраўдваецца:
- Мамачка, чаго ты крычыш? Я ж нічагусенькі не рабіў!

* * *

Бабуля:
- Саша, схадзі ў краму! Ды хутка: адна нага тут, другая там!
Саша:
- Добра, схаджу.
Бабуля:
- Ты чаму абуў чаравік толькі на адну нагу?..
Саша:
- Навошта абуваць другую нагу, калі яна будзе тут?



# МА КАТ РАЗМЫ

### КУДЫ НІ КІНЬ — УСЮДЫ КЛІН

Усё жыццё — адна мана,
Кругаварот надзеі страчаны.
А на развілцы сатана
Хвастом мятляе. Страшна!

ПРАХОДЧЫК

Праз агонь, ваду і медныя трубы –
Ў кацёл бяздушша і загубы.

СІДАР МАКАЦЁР

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

### ПЕРШЫ КАЛІФАРНІЕЦ

У 1893 годзе павесілі злачынцу.

— Адкуль ты? — запытаў яго Святы Пётр, калі той з'явіўся каля райскай брамы.

— З Каліфорніі, — адазваўся нябожчык.

— Уваходзь, сын мой. Ты прынёс добрыя навіны.

Калі той прыйшоў у Рай, Святы Пётр узяў тоўсты дзённік і запісаў: „16 лютага 1893 года. У Каліфорніі з'явіліся хрысціяне".

### НЕЗАДАВОЛЕНЫ ЗЛАЧЫНЦА

Суддзя, які прыгаварыў Злачынцу да зняволення, пачаў тлумачыць таму невыгоду злачынстваў і выгоду перавыхавання.

— Ваша чэсць, — перарваў яго Злачынца, — не маглі б вы змяніць маю кару на дзесяць гадоў зняволення без якіх-небудзь дадаткаў?

— Але, — сказаў здзіўлены суддзя, — я прыгаварыў цябе толькі да трох гадоў.

— Ведаю, — згадзіўся Злачынца, — да трох гадоў зняволення і чытання маралі. Калі ласка, замяніце мараль на зняволенне.

### НЕРАЗУМНАЯ ЖАНЧЫНА

Замужняя Жанчына застрэліла свайго каханка, які збіраўся ўцячы, з мэтай перавыхавання.

— Чаму вы зрабілі гэта, мадам? — спытаўся Паліцэйскі, які якраз праходзіў міма.

— Таму, — адказала Замужняя Жанчына, — што ён быў нягоднікам і купіў білет у Чыкага.

— Сястра мая, — мякка сказаў Святар, які таксама праходзіў міма, — нельга спыніць нягоднікаў, якія збіраюцца ў Чыкага, проста забіваючы іх.

*З англійскай пераклаў*
*АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ*

# НІЎКА

*— Апошнім часам адчуваю сябе неякдрэнна — відаць, гэта з прычыны вясны!*
*— Не, хутчэй восені!*
Мал. Анджэя Адамовіча

## З Д Р А Д А

Кастусь, ажаніўшыся з аднасяльчанкай Гапкай, вырашылі перабрацца жыць у Беласток. Горад тады быў моцна разбураны і цяжка было знайсці кватэру. Кастусь стаў працаваць будаўніком. Спачатку даязджаў на працу, а пасля Гапка знайшла невялічкую кватэру — адзін пакой — і яны пераехалі ў горад. Гапка не працавала, толькі даглядала двое маленькіх дзетак. Цяжка ім было, не хапала грошай, але ў дзень выплаты, 15-га числа, заўсёды на стале чакала Кастуся распачатая паўлітроўка гарэлкі, каўбаса, кілішкі і відэльцы. Кастусь пачаў падазраваць Гапку, што яна здраджвае яго. Гэтае паўтаралася кожны месяц. Кастусь не вытрымаў і аднойчы сказаў жонцы, што яна яго здраджвае і адтуль ёсць грошы на гарэлку. Гапка клялася перад Кастусём, што ніколі яго не здрадзіла і рашыла выявіць свой сакрэт.

Дагаварылася Гапка з Кастусём, што 15-га Кастусь возьме выхадны дзень і ўбачыць на свае вочы, ці Гапка здраджвае яго. Сядзіць у той дзень Кастусь у хаце, гуляе з дзецьмі, а Гапка штораз спаглядае на гадзіннік. А 9.30 паслала яна дзяцей на панадворак, пагуляць у пясочку, а ў 9.55 загадала Кастусю лезці ў шафу і там спакойна сядзець і назіраць праз дзірачку. Роўна ў 10 гадзін раздаўся стук у дзверы і ў кватэру ўвайшоў старэнькі пенсіянер з палачкай і сумкай у руцэ. Прывітаўшыся, дзядок выняў з сумкі паўлітроўку, каўбасу і хлеб. Пакуль Гапка парэзала закуску, той адкрыў бутэльку і наліў у кілішкі водку.

Выпілі яны па чарцы, закусілі і тады дзядок запытаўся: „Як будзем рабіць?" Гапка адказала: „Хіба па-старому".

Гапка паставіла табурэтку на сярэдзіне пакойчыка і ўзлезла на яе. Падышоў дзядок, падняў Гапчыну спадніцу ўверх і абцягнуўшы ўніз майткі, давай прыглядацца, і пальцам правай рукі тыцкаць у грэшнае месца. Пасля дзядок панюхаў палец, шчыра падзякаваў і пайшоў.

Кастусь, вылезшы з шафы, сказаў, што трэба пастарацца, каб дзядок прыходзіў часцей, два разы ў месяц.

На другі раз, пасля палучкі, пайшоў Кастусь у парфумерыю, купіў найлепшыя духі і сказаў жонцы, каб добра папырскала сваё грэшнае цела. Гапка так і зрабіла, а калі наблізілася гадзіна 9.55 Кастусь палез у шафу. Дзядок прыйшоў як заўсёды і пачалося ўсё пастарому. Калі дзядок падняў спадніцу, і потым панюхаў палец — узлаваўся, стаў лаяцца і сказаў, што такі запах дастане і ў касметычным магазіне. Больш ён ужо і не паказаўся.

Вось такім чынам Гапка перастала здраджваць мужа, а Кастусь ужо больш не выпіў дарэмнай гарэлкі.

М. ЛУК'ЯНЮК

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

— Хто ў вас самы важны ў хаце?

— Мама найважнейшая, — адказвае малая.

— Чаму?

— Мама крычыць на тату, забірае ў яго грошы, усё сама купляе, яна варыць і прыбірае ў хаце.

* * *

— Раскажыце мне гісторыю, якая вам найбольш запамяталася, — кажа настаўніца вучням.

Падымае руку Павел.

— Аднойчы я згубіў паўмільёна і...

— Напэўна, ты вельмі моцна перажываў...

— Не. Я толькі стаміўся, ідучы з аднаго канца горада ў другі, да сваёй бабулі. Гэта яна дала мне грошы. А ў яе іх многа. Пенсію мае, стаіць на базары... Але яна зноў дала мне дзвесце тысяч і сказала, каб я не перайма́ўся...

АЎРОРА

## НА АЛЕКСА

Уцёк Аляксандар аж у Гданьск на навукі,
Палітычна кшталцоны і моцны у мове.
Даганіла Вэнтура яго — без прынукі
Ён дзяўбе ў клавіятуру і піша, панове!

МІРА

*МІКОЛА КАРАЛЁЎ*

## Ё-МАЁ

Юнакі вядуць размову,
Дым пускаюць спакваля.
Ажно вушы рэжуць словы:
„Бля... Бля... Бля..."

На аўтобусным прыпынку
Ліпне хлопец да дзяўчыны,
А яна: „Хі-хі, хо-хо!"
А пасля: „Ху-ху не хо?"

..............................

Ад распусты не ўратуеш,
Тут у кожнага сваё.
Ды калі такое чуеш...
Ё-маё!

## ДУМКІ ЎСЛЫХ

Бывае, што мудрасці без дыплома
Нельга паказацца з падвала ўласнага дома.

* * *

Калі чалавек з Богам сувязі не трымае,
Тады чорт да яго прэтэнзій не мае.

* * *

Калі цягнеш воз з багаццем, сябры памагаюць,
А калі той воз з бядою, нават не кранаюць.

* * *

Каб не сексуальныя забавы-весялосці,
Дык не было б ні душы, ні косці.

ЯЗЭП КАРПЮК

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Сэрцайка! Усім ты раіш, парай і мне. Дванаццаць гадоў жывем мы ўжо з мужам. Рознае бывала — і лепш і горш. І ў пасцелі таксама. Хаця, праўду кажучы, жыццё нялёгкае ў нас, то ўсё ж ложак нас заўсёды яднаў.

А цяпер здарылася вось што. Захварэла яго маці. Жыве яна на вёсцы адна. Мой муж, які цяпер на засілку для беспрацоўных, накіраваўся да яе. Не было яго тры дні. Як паехаў у аўторак, дык вярнуўся ў пятніцу. Засумаваў па мне. Відаць гэта было адразу. Быў такі мілы і чулліва. Але што ж, калі маем усяго пакойчык з кухняй. Пакуль дзеці не паснуць, і так занадта не папрытуляешся. Сын, праўда, спіць на кухні, але дачка — на падлозе ў адным пакоі з намі. Бачу, што заснула яна, а першы ж сон наймацнейшы. Ну, думаю, цяпер дык пакахаемся! Я павярнулася да мужа, моцна прытулілася. Пацалаваліся. Ён быў вельмі разахвочаны, адразу ўскочыў на мяне — і, на жаль, праз мінуту якую ўсё было скончана.

Я не паспела нават нічога адчуць, а ён, як бы ні ў чым не бывала, адвярнуўся ад мяне і захроп.

Я пачакала мінут дваццаць. Так заўсёды бывала, што праз мінут дваццаць-паўгадзіны ён мог усё паўтарыць, ды з шмат лепшымі вынікамі, бо трывала гэта нават часам і паўгадзіны.

Муж, аднак, на гэты раз спаў моцным сном, быццам зусім забыўшыся на мяне. Я не вытрымала. Разбудзіла яго. Пачала ад жаляў. Як гэта так?! Калісь жа абяцаў, што будзе яшчэ і мне добра, і слова сваё стрымліваў. А цяпер што, адвярнуўся і захроп?! Ва ўсім так. Толькі каб выкарыстаць жонку, абы яму было добра, так? Удзень яна пойдзе на працу, грошыкі заробіць, а ўначы яму асалоду дасць.

А ён што? Удзень выспіцца, колькі схоча, на заробак не лётае. Ды і ўначы не перапрацуецца.

Раніцай, калі дзеці пайшлі ў школу, скандал працягваўся. Нічога не гаворачы, нават не прабуючы апраўдвацца, мой муж сабраў крыху манатак у сумку і, кінуўшы, што едзе да маці, выйшаў з хаты.

Мінула ўжо пяць дзён, а ён не паяўляецца. Мне вельмі сумна, я б яму ўжо і даравала тое, што здарылася, але ж ён вось не вяртаецца. А ехаць да свякрухі мне гонар не дазваляе. Што рабіць? Бадай не мушу яго перапрашаць?

Яніна

Яніна! Навошта зараз жа і перапрашаць! Спачатку злаеш чалавека без прычыны, а пасля з перапрасінамі будзеш лезці?!

Ты паедзь, паглядзі, як ён там дае сабе рады, як адчувае сябе хворая свякруха. Падумай, што мо тады не ў галаве яму было доўгае каханне, бо маці была хворая, а мо і стаміўся ў дарозе. Так па табе засумаваў, што і згарэў адразу. А ты ўжо і гневаешся. Калі чалавек напаліцца, дык яму здаецца, што будзе гэта трываць вечнасць, а тут — трах-бах — і гатовы.

Паедзь і скажы яму: „Мела быць праз дваццаць мінут, а ўжо і сем (дзесяць, дваццаць) дзён мінула. Дык што ж ты мяне так ашукваеш?!" Можа, і ён расхмурыцца.

СЭРЦАЙКА